нервуюцца, дзе б яны ні паявіліся. І даводзіцца нават першыя крокі рабіць пад позіркамі мільёнаў людзей, якія помняць...

Пятнаццаціхвілінны позірк той доўжыцца...

Сангмі... І адразу ўспыхвае, як у промні: Лідзіцэ, Арадур, Хатынь, Хатыні!

Малойчыкі, што лупяць па галовах за чытанне кніг... Адразу паўстае: вогнішчы з кніг на плошчах Берліна і Мюнхена!..

Штраус, Адольф фон Тадэн, Галдуотэр, Альмірантэ... І адразу праяўляюцца на твары вусікі, спаўзае на лоб касмыль...

Пра іх, пра новых фюрэраў, людзі памятаюць усё.

І яны самі памятаюць пра сябе... Хоць вельмі ж хацелася б забыць! Як сядзелі, злоўленыя, а людзі ў Нюрнбергу, у Мінску, у Кіеве, у Варшаве, у Бялградзе разглядвалі іх, а іхнія ахвяры з кінаэкранаў зноў глядзелі ў вочы... Помняць яны, цяперашнія, як раптам абмяклі пад гэтымі позіркамі, быццам і не было гэтага — дзесяцігоддзяў жорсткай улады над жыццём, над лесам мільёнаў... Помняць яны, як у іх (тады іх называлі герынгамі, кохамі, гесамі) расцягваліся ад паслухмянай усмешкі губы перад салдатам, канваірам, пераможцам. Як бездапаможна, непадобна выглядалі яны, нядаўнія дучэ, пад дулам партызанскага аўтамата (« — Я ведаю, мне не зробяць шкоды!»). Як вішчэлі, зажмурвалі вочы, страчвалі прытомнасць, як не хацелася ім, кальтэнбрунэрам і розенбергам, у пятлю, хоць чужыя смерці, мільёны, імі запланаваныя, абуджалі ў іх толькі прафесійную нудоту. І як у іх, што называліся тады Гітлерам, дрыжэлі губы і пальцы, калі ад усяго ў іх засталася толькі пацучыная атрута.

Як бы нахабна ні паводзілі сябе сёння пад абаронай новай сілы, улады, яны памятаюць, што тады была ў іх улада над паловай свету, а потым быццам прачнуліся, апынуўшыся сам-насам са сведкамі — суддзямі, якіх, здавалася, яны даўно спалілі ў крэматорыях...

Як гэта ў Піта Сігера — пявучага амерыканца?.. «Апошні цягнік у Нюрнберг! Апошні цягнік у Нюрнберг! Кожны займае сваё месца! Вы бачылі лейтэнанта Колі? Вы бачылі капітана Медыну? Вы бачылі генерала Костара? Вы бачылі Уастморленда? Адпраўляецца цягнік у Нюрнберг!»

Знакі сапраўды выстаўлены, асветлены, ва ўсіх перад вачамі, перад памяццю!..

Так, усялякае ашуканства, махлярства не можа цягнуцца бясконца: немагчыма ўсіх ашукваць вечна. Сёння гэта такая ж ісціна, як і ў даўнейшыя часы. Але гэта ўжо не суцяшае, як раней. Занадта небяспечны і нядоўгі падман многіх. Таму што ёсць Бомба, для якой такога часу дастаткова. На сабе спыні ланцуговую рэакцыю! У час

спыні homo sapiens, у сабе таксама абарві дроцік, які цягнецца да Бомбы!..

У армейскім лазарэце, памятаю, сусед — сапёр з выпаленымі вачамі, апавядаў пра тое, як тапіўся, а яго ратавалі, адкачвалі на беразе возера. Дык ён, аказваецца, увесь час чуў галасы людзей, якія стараліся над ім. А ў нейкі момант пачаў і разумець, пра што гавораць. І раптам — выразнае:

— Баста! Нашто яго мучыць? Сорак хвілін — і ніякай адзнакі! Безнадзейна.

Чалавеку хацелася крыкнуць, што ён жывы, хоць бы застагнаць, губамі паварушыць, а ён не мог. І памятае, які жах быў: а раптам і астатнія згодзяцца з гэтым: «Безнадзейна!»

Занадта многае залежыць ад сённяшніх намаганняў людзей,— якая б сітуацыя ні склалася — чалавек не мае права рашыць: «Баста! Безнадзейна!»

...— Паваротка на Хатынь,— сказалі ў аўтобусе. Нас хіснула, і гул машыны зрабіўся лясны, блізкі.

— Адзін... два... тры...

Сярожа ўголас чытае лічбы. Мабыць, на кіламетровых слупах. Зноў адкрытая прастора (гук адступіў далей). Спыняючыся, мы зрабілі круты разварот.

— Прыехалі, татка.

Дзень вельмі сонечны, цёплы. Гэта мая звычка: выходзячы з будынка ці машыны, перш-наперш пашукаць тварам, павекамі казытлівыя промні сонца. Агульная, так сказаць, арыенціроўка ў космасе.

Галасы навокал, шмат, прыглушаныя. І замежныя галасы. Іх цяпер і на вуліцы нашага несталічнага горада пачуеш. З тых часоў, як я перастаў бачыць, а асабліва ў апошнія гады іх з'яўляецца ўсё больш...

Шорганне ног па цэменце, шархаценне колаў і маторы машын. Ударыў — мне пад ногі — рэзкі металічны гук. Гэта мой алюмініевы кіёк, тут ён нязвыкла і непрыемна гучны. Я ўзяў яго, нясу пад локцем. Пачакаў, пакуль мяне знойдзе Глашына рука. Але металічны гук, як рэха, застаўся ў прасторы: ён здалёку прабіваецца да нас — праз галары і шорганне падэшваў. Гэта і ёсць хатынскія званы? На высокіх комінах, кажуць, вісяць званы — там, дзе стаялі хаты...

Мы ідзём насустрач гэтаму гуку, кволаму, быццам расколатаму. Прыпыніліся каля людскіх галасоў, што чытаюць лічбы:

— ...2 мільёны 230 тысяч... На Беларусі загінуў кожны чацвёрты.

— Гэта магільныя пліты? — ціха пытае Сярожа.

— Не, проста дарожка.

Глашына рука паказвае і падказвае, як ісці, як ставіць нагу, але сёння яна не тая, што звычайна — дома ці на вуліцы горада. Яна, як тады, у лесе, дзе грымела нямая (для мяне, аглушанага) страляніна, а Глаша віснула на маёй руцэ, паказвала, ці далека страляніна...

Гук ужо мацнейшы, бліжэй: тарганецца і цішэе, як заціснуты боль, каб тут жа раздвоіцца. Прагучыць, падвоены, патроены — надтрэснута, цымбальна — і таксама абрываецца, быццам на яго лягла нечая далонь. Але зноў і зноў паяўляецца ў свеце надтрэснуты, цымбальны звон, яго ўжо чакаеш, і з ім узнікае даль, яна імкліва пашыраецца. І ў табе таксама штосьці шырыцца: звон зноў і зноў шукае, абмацвае дно, кліча рэха. Пліты, мабыць, чорныя: Сярожа спытаў, ці не магільныя.

— Мамка, гэта гэты стары жывы застаўся? Які цяпер з каменя зроблены?

— Цішэй, Сярожа, паслухай, што цёця расказвае...

Малады, дзявочы голас тлумачыць, як тут было, што тут дзеелася чвэрць стагоддзя таму назад: як наляцелі карнікі, як сагналі ўсіх у хлеў і падпалілі, а людзі вырываліся, выбягалі на кулямёты, і як уцалеў гэты стары. А сям'я яго, як і астатнія, каго спалілі, запісана на бронзавай дошчачцы, прымацаванай да коміна-звона...

За дзявочым маладым голасам — як праўда, якую выказаць, перадаць немагчыма, але якая, тым не менш праўда — усё тое ж цымбальнае перакліканне званоў, пералік мёртвых комінаў.

«Дзіця з'ядае хлеба больш, чым дарослы» — гэта засела пад чэрапам маньяка ў адным канцы Еўропы, і праз некалькі гадоў сюды, у другі канец кантынента, прыйшлі, каб забіць дзяцей... Якія з'ядаюць больш...

У каменнага старога, што ўзняў, трымае забітага хлопчыка, далонь, пальцы прастрэлены. Я не ведаю, ці заўважаюць гэта відушчыя. Я бачыў не адзін раз — пасля вайны. Амаль ва ўсіх, каго расстрэльвалі разам з дзецьмі і хто выпадкова пры гэтым застаўся жывы, рука знявечана. Тая, якая закрывала, прыціскала да зямлі галаву дзіцяці. Чалавек упаў побач з забітымі, паспеў паваліцца жывы з жывым дзіцем, іх залівае жах, залівае кроў мёртвых: не дыхаць, не варушыцца, што б там ні тварылася!.. Але хлопчык, але дзяўчынка — яно хоча ўстаць, вось-вось заплача, закрычыць! І яго, яе трымае, прыціскае да зямлі рука маці ці бацькі, просіць, моліць маўчаць, не клікаць да сябе смерць. А смерць падышла ўжо, глядзіць у патыліцу,

цэліцца. Страляе ў галоўку дзіцяці — і ў руку, якая абараняе, хавае цёплую, як летняя зямля, галоўку...

Гук, ломячыся, пульсуючы, адскоквае ўдалячынь і ўсё лічыць, лічыць коміны... Я сярод неіснуючай вёскі, слухаю, як людскія галасы счытваюць з нябачных табліц імёны, прозвішчы спаленых людзей, назвы забітых вёсак. Назвы гарадоў і — зноў і зноў паўтораныя — лічбы тысяч закатаваных у канцлагерах: 80 тысяч... 180 тысяч... 250 тысяч...

Сонца казыча павекі, стараецца іх, не закрытыя, раскрыць. Калісьці я любіў глядзець на сонца заплюшчанымі вачамі: праз жывую расплаўленую чырвань павек. Сесці дзе-небудзь ці вось так стаяць ці ісці насупраць сонца і глядзець на сонца, афарбаванае маёй жывой крывёю і быццам ад крыві маёй цёплае.

Цяпер мае павекі чорныя, і толькі іскры болю паласуюць чорнае, заўсёды гарачае неба...

Гук хатынскіх званоў ужо за спіной у нас лічыць, пералічвае коміны, мы ідзём адсюль, а ён застаецца, ён зноў даганяе, крышыцца, пытае: «Вы — за-пом-ні-лі?.. Дык вы — пом-ні-це?.. пом-ні-це?.. пом-ні-це?»

Мы аддаляемся. Я ўжо апусціў палку, яна звініць аб пліты нязвыкла гучна, патрэбны час, каб гук гэты зноў стаў звычайны. Усяго толькі стук металічнай палкі аб камень. Я кудысьці іду — і нічога больш.

Але ці ёсць цяпер у свеце хоць што-небудзь, пра што можна сказаць: і нічога больш!

Гук ззаду робіцца слабейшы, а мой кіёк, нашы крокі, галасы людзей — гучаць больш упэўнена, звыкла.

— Ну, далей паехалі? — малады голас шафера.

1966, 1968—1971 гг.

## ДАДУМВАЦЬ ДА КАНЦА. АЎТАБІЯГРАФІЯ-85

Анкетныя звесткі адпаведна дакументам: год нараджэння — I927, месца нараджэння — вёска Канюхі Капыльскага раёна Мінскай вобласці; сям'я — з гадамі ўсё болей медыцынская: урачом быў бацька, а потым і маці скончыла фармацэўтычныя курсы, пазней і брат мой Яўген стаў хірургам (я і сам паступаў спачатку ў мединстытут); вялізная (калі лічыць і дзядзькоў, цётак, швагроў) сям'я наша амаль уся ваявала, але ніхто не загінуў, відаць, рэдкі выпадак сямейнай удачлівасці.

З 1928 года жылі ў рабочым пасёлку Глуша на Бабруйшчыне, там застала вайна, прайшлі праз падполле, якое на Беларусі было ў кожным, нават меншым за нашу Глушу, пасёлку, сялібе, калі там не стаялі партызаны, а з 3 сакавіка 1943-га і па пачатак 1944-га я праваяваў радавым партызанскага атрада імя Кірава; потым апынуўся за лініяй фронту (для нас гэта азначала — па той бок, дзе няма немцаў), паехаў на Алтай, там жыла яшчэ адна мая цётка, год вучыўся ў Ленінагорскім горна-металургічным тэхнікуме, паступіў таму, што была стыпендыя і інтэрнат, і яшчэ таму, што анынуўся раптам зусім адзін: маці і брат — засталіся ў партызанскім атрадзе, бацька — з першых дзён вайны недзе на фронце; а знайшліся ўсе, адшукалі мы адзін аднаго, я вярнуўся ў Беларусь, у сваю Глушу, паступіў у Мінскі універсітэт, закончыў аспірантуру, абараніў адну, а затым другую (доктарскую) дысертацыі (тым часам употай пісаў сваю партызанскую дылогію), стаў (з 1954 г.) працаваць у Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы АН БССР, але нечакана для самога сябе паехаў вучыцца на Вышэйшыя сцэнарныя курсы, затрымаўся ў Маскве (1962-1966 гг.), таму што адначасова з вучобай на сцэнарных курсах узяўся чытаць беларускую літаратуру ў Маскоўскім універсітэце. Вярнуўся ў Мінск, у Інстытут.

Але акрамя стажу навукова-акадэмічнай працы, літаратуразнаўчай, немалы ўжо, як сам са здзіўленнем выяўляеш, набіраецца стаж працы ў самой літаратуры — раманы, потым аповесці, дакументальныя кнігі, а напаследак дык ужо і апавяданні (нейкі нетрадыцыйны, адваротны шлях жанравага руху, развіцця).

У маім чатырохтомніку (у які, зразумела, не ўвайшлі працы саа ўтарскія — «Я з вогненай вёскі...», «Блакадная кніга») не менш за два тамы — гэта крытыка, публіцыстыка. Палова! Рызыкоўная трата, размеркаванне пісьменніцкай энергіі, сілы. З пункту погляду выжывання ў часе. Тым не менш уключыў у Збор твораў і артыкулы, выс-

тупленні, крытычныя эсэ. Відавочна, з надзеяй, што гэта не так ці не зусім так. А раптам не ўсё ці не зусім памерла, яшчэ пажыве! Пісаў іх з тым жа напружаннем і бясконцым перапісваннем, як і прозу. Не, ніколі, здаецца, не пускаў артыкул, выступленне, як нешта «буфернае», папераджзе прозы, каб ёй затым прайсці, пражыць больш бяспечна. У вайну немцы (ды і мы таксама, калі перайшлі граніцу) наперадзе паравоза ставілі, пускалі платформы з пяском — на небяспечных участках дарогі. І ў нашай справе бывае спакуса: артыкул, выступленне нагрузіць мёртвым баластам. Затое, маўляў, у рамане, у паэме скажу, што думаю, як думаю, з усім наяўным сумленнем!

Памятаю, на адным з бурных маскоўскіх сходаў 60-х гадоў, калі пісьменніцкая грамадскасць прабірала самых гучных у той час паэтаў, сядзелі мы, некалькі чалавек, наводшыбе, перагаворваліся, назіралі, як наш брат, які выйшаў на трыбуну, імкнуўся выцягнуць туды ж «ахвяру». Зусім як у Цютчава:

...С какой отвагой благородной
Громите речью вы свободной
Всех тех, кому зажали рот.

Хто і ў чым правы ці не правы, быццам ужо і значэння не мае: галоўнае, нахіліць, нахіліць галаву ўпартаму! Нешта крыўднае і абразлівае, непрыстойнае ў нежаданні некага гаварыць словы, якія я, бач, рытуальна, гавару.

Раптам узняўся і пайшоў да трыбуны і наш сусед, з якім толькі што гаварылі пра ўсё гэта ў такім вось сэнсе (аказваецца, значыўся ў спісе прамоўцаў). Я нават здрыгануўся: зараз выдасць спаўна, не, да чаго ж адчайная галава!

Загаварыў... быццам і не сыходзіў з трыбуны папярэдні прамоўца. Вярнуўся, сеў зноў побач, я, малады яшчэ, пачынаючы, не адразу адважыўся зірнуць на яго, баючыся, што чалавеку няёмка. Нарэшце глянуў: нічога падобнага! Ён жа ведае, што і мы ўсё разумеем: не за выступленні ж, прамовы мы яго цэнім, а за раманы, аповесці, у якіх сапраўды і думка, і смеласць грамадзянская, і сумленне.

Але прыйдзе час, і свае выступленні, артыкулы збярэ і надрукуе (ці другія збяруць і надрукуюць), а нашчадкі гадай: дзе ж ён сапраўдны — у гэтым ці ў раманах? Глядзі, яшчэ і праблема аўтарства ўзнікне: ці ён пісаў свае раманы, калі вось такі быў, як у гэтых выступленнях, артыкулах? Ды ці не перабольшваем раманныя вартасці, ці не гучаць у раманах інтанацыі (і ўмоўчванні) яго прамоўніцкія?.. Нехта жорстка, але слушна сказаў: у косках, нават у кропках-косках скажацца!

Але нам і пашанцавала: не толькі вось такія сходы выпалі на наш час, а і зусім іншыя: шквал асвяжаючых ідэй, імкненняў, думак, слоў, учынкаў. Усё тое, што стаіць для нас за любым упамінаннем пра час пасля XX з'езда партыі.

У сваёй аўтабіяграфіі 1962 года я такое вось зрабіў назіранне, якое гатовы пацвердзіць: «Кожны, хто піша, ведае той галоўны штуршок у жыцці, які зрабіў яго літаратарам, Для адных гэта была рэвалюцыя, грамадзянская вайна... Для мяне і многіх маіх аднагодкаў — Айчынная вайна і XX з'езд. Два штуршкі — два «эпіцэнтры». Без другога і пра вайну расказвалі б інакш. Або наогул не расказвалі б.

Прозу сваю я пачаў пісаць, ствараць («запісваць» — так будзе больш дакладна) недзе ў 1948-1949-м. Але пакуль не спяшаючыся запісваў уласную ваенную памяць (з гэтага выраслі, узніклі раманы «Вайна пад стрэхамі» і «Сыны ідуць у бой»), увесь, са сваімі эмоцыямі, маладой нецярплівасцю рынуўся ў крытыку, якую сам час завострываў публіцыстычна. Чым яна была, у тыя 50-я, у пачатку 60-х, літаратурная крытыка, з якім пачуццём пісалася? А з тым жа, з якім у дзяцінстве мы ступалі на лёд, які запрашаў, патрэскваў, страляў пад нагамі, слізгалі, прагульваліся па ім: вось трымае, глядзіце, стаю, не правальваюся!..

Аглянуўся — два тоўстых тамы набралася! А ўласна прозы не вельмі многа. Ці ад таго, што крытыка-публіцыстыка энергію забірала? Выгаварышся ў артыкуле — не трэба аповесць пісаць, а калі ўжо пацягнула, сеў за аповесць, дык спяшацца няма чаго, думкі, пачуцці, якія «свярбяць», ты ўжо выказаў, пашукай што-небудзь глыбей!..

Склаўся, устанавіўся нейкі свой (як у кожнага) характер пісання аповесцей. Справа не толькі ў тым, што перапісваюцца шматразова, а што працэс выспявання, даспявання на паперы адбываецца быццам сам па сабе, па ўласных законах, паскорыць яго — быццам ужо не мая ўлада. Як немагчыма паскорыць стварэнне, рост сталагміта ці сталактыта, таму што менавіта ў павольна-пастаянным прасочванні вады скрозь зямныя нетры, тоўшчы, у кропляў уся справа. У кропляў, у павольным капанні і нарошчванні салявой масы.

«Хатынская аповесць» пісалася больш чым пяць гадоў (1965, 1968-1971), «Карнікі» — каля дзесяці (1971-1979), зараз вось пішу, з 1982-га, яшчэ адну аповесць — аб тым, аб чым і мае артыкулы, выступленні апошніх гадоў. Хацеў бы хутчэй напісаць, рабіць тую самую «звышлітаратуру», з якой у артыкулах прыстаю да іншых. Але, аказваецца, нават у такім выпадку не магу хутчэй, а толькі па кроплі...

Больш за дзесяць гадоў, пачынаючы з 1970-га, займаўся галоўнай, відавочна, справай свайго жыцця, прынамсі, ужо страчанага,— кнігамі народнай памяці: «Я з вогненнай вёскі...» і «Блакадная». Але гэтыя працы далёка выходзяць за рамкі, за межы маёй уласнай біяграфіі, не яны — частка мяне, хутчэй я — іх часцінка (як і сотні сааўтараў гэтых кніг).

Некалі я называў два «эпіцэнтры» свайго, нашага пісьменніцкага лёсу. У 80-я выявіла сябе, заявіла пра сябе, закруціла, пацягнула за сабою (па невядомых законах грамадска-духоўнай гравітацыі) новая магутная крыніца энергіі, яшчэ адзін «эпіцэнтр»,— не аднаго мяне, вядома, пацягнула. Там: Айчынная вайна, XX з'езд. Тут — нанава, з неспазнанай раней яснасцю і жорсткасцю выяўляемая праўда ядзернай эры — край бездані, які адкрыўся перад вачамі.

* * *

Але вярнуся і да чыста жыццёвай рэальнасці, без чаго, відаць, не абысціся ў жанры «Аўтабіяграфіі». Хаця гэта і не самае цікавае. А часам і дзіўна яго ўспамінаць, жыццё пражытае, глядзець адсюль — туды. Гэта калі ўзяць і, расставіўшы пальцы, глядзець на ўласную руку: няўжо маё? вось гэта? дзіўнае і страшнаватае, падобнае на нябачнага звярка ці нешта такое, што раптоўна вынырнула з-пад тоўшчы акіяна?!.

Няўжо я гэта, ля акна ў цёмнай хаце, усе некуды пайшлі, нікога каля мяне, а па шашы ідуць, едуць на конях салдаты з белымі дзідамі. Мне тры ці чатыры гады, і мне страшна... Хоць я ўжо разумею, што ёсць салдаты чужыя, а ёсць нашы і гэтыя з дзідамі — нашы.

Даваенная самая святочная радасць — кінафільмы, якія зацягваліся да 2 гадзін ночы (без канца псавалася апаратура), а калі гаснуў экран,— я радасна ўсхопліваўся з падлогі (наша, хлапчукоў, месца ў кіназале) і глядзеў, глядзеў у тую кропку прасторы, дзе, ведаў, сядзела Яна, маё Першае Каханне. Мае першыя вершы.

Колькі тады было першага, упершыню — у табе самім, у лёсе, у людзях, у птушках, звярках, нават у дрэвах каля хаты, звыкла знаёмых, якія ўспрымаліся амаль як хатнія жывёлы.

А потым быў першы дзень вайны. І ўжо праз шэсць дзён — першыя немцы, ворагі!

Разглядваеш сябе з далечыні часу, са здзіўленнем распазнаючы: і гэта таксама я, вось той, што жыве ў доме каля «варшаўкі» хлопец! Ненавіснаму немцу карніку з Берліна, самаму галоўнаму, каб мяне забіць, сцерці з твару зямлі, не трэба нават ведаць, падазраваць аб маім існаванні. Але яму, які ўсё можа, на Зямлі існаваць аставалася

не болей чым пяць гадоў, ведаў бы ён гэта і што хлопец той з Глушы будзе мець асалоду, пераджыўшы яго, выварочваць яго надзьмута-вялікасную ягомасць, як гаспадыня брудныя вантробы. Не, што ні кажы, добра пераджыць фюрэра!

А тады я існаваў пад ім, што закрываў сонца сваёй надзьмутай злосцю, і сам наліваўся нянавісцю да ўсіх, хто прыйшоў з яго імем. Маці жыве ў незвычайным напружанні, чаканні нечага самага жудаснага, чаму здаецца яшчэ больш спакойнай і як бы ледзь-ледзь наводдаль ад нас, уласных дзяцей: гэта каб не хныкалі, не напрошваліся ў яе справы.

З верасня 41-га яна працуе на партызан: прывозіць з Бабруйска медыкаменты (за партызанскія грошы, харчы), сама носіць іх у лес. А мы, а мы?

— Не дурыце галавы! Для вас усё гэта гульня! Я і так хутка звар'яцею!..

Але без старэйшага ёй ужо не абысціся ў гэтых справах, а малодшага можна і праігнараваць. Але ў яго даўно ўжо свая вайна з немцамі і з іх фюрэрам: што-небудзь сказануць афіцэру-пастаяльцу, напомніць пра лёс Напалеона, перахаваць кімсьці закапаныя ў яме каля шашы гранаты (і зараз ёсць тое месца, дзе іх закапваў, усякі раз, калі бываю ў Глушы, праходзячы міма, глядзіш, глядзіш здзіўлена: няўжо ўсё было? Вось жа яно, тое месца, тут!).

А, урэзалі!— услухоўваемся ў сваёй хаце ў радасна грозную страляніну на шашы, недзе ў баку Старых Дарог. Але мне мала слухаць партызанскую страляніну, хапаю вядро (ваду — у балею!) і з пустым выскокваю на вуліцу. Хутка паявяцца, калі праскочылі... Вось яны, адна, другая машыны — з разбітым лабавым шклом, пашчапанымі бартамі! Выскачылі немцы з камендатуры (яна зусім побач з нашым домам), зносяць забітых, параненых. Праходзячы міма, я, здаецца, самы асцярожны позірк кінуў у прыцягальную цемнату кузава, залітага крывёю, але нешта выдала — твар? вочы? — Жорсткую зларадн-асць, якая клекатала ва мне. Адзін з немцаў рэзка да мяне павярнуўся і, як бы пазнаўшы, кінуўся, закрычаў, схапіў мяне за плячо, я спалохана рвануўся, збег у канаву і, паказваючы вядро (вось, вось, я па ваду!), накіраваўся да калодзежа.

Спужаўся вельмі моцна: не ведаў, вядома, што фюрэр з самага пачатку распарадзіўся, як са мной абыходзіцца: «Страляй, калі коса зірнуў!» — але што робяць менавіта так, мы ўжо ведалі, пераканаліся. Ды як было саўладаць з тым, што ва мне клекатала?..

Так, гэта быў я, былі яны. Потым быў лес, атрад, і гэта таксама я — што цэліцца з вінтоўкі ў немца. Не, чаму гэты, у гэтага? Пераеў

мушку (прыйшлося правесці ствалом вінтоўкі па ўсмешлівым твары жанчыны, што сядзіць на козлах паміж старым жандарам і маладым), цэлюся ў маладога, ён больш небяспечны, а коні, пара біцюгоў, вось-вось наедуць на нас у засадзе каля вёскі Усцерхі, з якой нас пазаўчора немцы і ўласаўцы выбілі. Праехалі ўлева — першая падвода з тымі, каго я збіраўся, прыцэльваўся забіць, другая наязджае на мяне, зноў прымерыўся: у гэтага раней? а чаму ў гэтага, а не ў гэтага?.. Сігнальны стрэл, і я таксама выстраліў — у аднаго, потым у другога — і яшчэ па разу паўтарыў, яны так і засталіся сядзець, адваліўшыся...

І тут — удар, як бы зверху, па галаве! Палкай, хто ўдарыў мяне палкай? (Нават па датычнай, калі ў галаву, удар кулі бывае страшны.)

Нашы ўжо бягуць спалохана-весела, засада ўсётакі ўдалася, хоць і па нас урэзалі! І толькі я нясу, адчуваю ў сабе дзіўную абыякавасць да ўсяго, уключаючы і ўласнае жыццё. Ці таму, што мяне ледзь не забіла. Ці што я забіў, вось толькі што. Нас могуць яшчэ перахапіць на папярэчнай дарозе, па якой курсіруюць браневікі, але мяне гэта не цікавіць, не хвалюе нікольку. Быццам і няма ўжо мяне...

У выпадку смяротнай небяспекі, гавораць псіхолагі, уключаецца адна з форм паводзін, уласцівых наогул жывым істотам,— інстынкт: «пачынаю бойку!», «ратуюся ўцёкамі!» ці: «я ўжо мёртвы, вам не цікавы!». У апошнім выпадку прыкідваецца мёртвым, а то і на самой справе засынае.

Але гэта звяркі, а ў чалавека за гэтым і яшчэ нешта, што назваць можна зрывам маральна-псіхалагічным. Не, мае рацыю Віталь Сёмін у сваёй «Плаціне»: паміж «забіць» і «быць забітым» адносіны не толькі разнапалюснасці, але і прыцяжэння.

Напярэдадні Новага, 1985, года мне прыслалі стэнаграму абмеркавання аповесці «Карнікі» ў бібліятэках ГДР. У адным з выступленняў, для мяне вельмі цікавых, я сустрэў упамінанне аб маім артыкуле «Вялікая сіла любові», надрукаваным у шматмоўным «Новом времени» (1984, № 32). У артыкуле гэтым я ўжо выходзіў да пытання, да якога звярнуцца хачу і тут, цяпер. Так, нянавісць была вялікая. І зразумела чаму. Але што было больш моцным, якое пачуццё, і чым мы моцныя былі раней за ўсё?

Сам я быў, улічваючы, можа быць, мой узрост, якраз выражэннем раней за ўсё пачуцця нянавісці. Але вось маці сваю я не запомніў з гэтым пачуццём у вачах, на твары, у паводзінах — ні ў адным выпадку, ні разу! Хоць здавалася б: мала таго, што прыйшлі, каб пазбавіць усякай будучыні яе дзяцей ці забіць, але і яе самую прымусілі (у канчатковым выніку яны ж) займацца справай, якая наклікае на дом, на дзяцей смяротную небяспеку і, можа быць, страшэнную пакуту.

Не, ніякая нянавісць не нрымусіла б яе рабіць, паводзіць сябе так. Калі дайшлі чуткі (на шчасце, памылковыя), што старэйшага яе сына (брата майго Жэню) немцы схапілі пры аблаве ў Бабруйску, як яна страшэнна выла, як вар'ятка, бегала па шашы, не сароменючыся нікога,— і гэта яна, заўсёды такая стрыманая, спакойная. Так, што сыну малодшаму нават сорамна было за яе. А калі, ужо ў атрадзе, сына параніла, а яна рашыла — забіты, як умомант уся яна перамянілася!..

Так, інстынкт маці у ёй быў крайне моцны. І вось сама стала рабіць тое, за што і яе і дзяцей маглі схапіць, катаваць, пакараць смерцю. Не, ніякая нянавісць яе не прымусіла б.

Значыць, любоў. Сіла куды большая. Праз думку і боль аб чужых дзецях, якіх ужо забілі ці забіваюць, праз многае, у чым праяўляецца сам наказ жыцця і покліч будучыні, маці можа, маці здольная рабіць тое, што і рабілі, выконвалі тысячы і тысячы іх,— рызыкаваць уласнымі дзецьмі. Неадольней за нянавісць у нашых людзях было гэта — любоў.

Любоўю свет уратуецца. Прыгажосцю свет уратуецца...

Колькі разоў чытаў, чуў словы гэтыя, успрымаючы досыць адцягнена, хаця жыццё столькі прыкладаў і ўрокаў падносіць, нават дамашніх.

У 1984 годзе прыйшло пісьмо ад жанчыны, таксама былой жыхаркі Глушы, і вось у ім такі ўспамін: на вялікіх перапынках яны, школьніцы-старшакласніцы, бегалі ў аптэку «паглядзець на Ганну Мітрафанаўну, Вашу маму». А каб растлумачыць сваё пастаяннае паяўленне ў аптэцы, куплялі «сен-сен», даваенны сродак заглушыць пах спіртнога і тытуню. Настаўнікі нават насцярожыліся, чаму так пахне клас падазроным зеллем...

Калі ў нас не зрабілі вобыск, калі прыйшлі па даносе, не знайшлі тое, за што і катавалі б, і пастралялі б ці павесілі, дык толькі цудам. І цуд гэты — наша мама. Немец стаяў у дзвярах, а па пакоі радасна прагульваўся, проста лятаў ад усведамлення сваёй улады над жыццём і смерцю нашай, ад нашага здранцвення паліцай Гузікаў, «пан Гузікаў», ледзь не кранаючы ботам кош для бялізны пад ложкам, дзе схаваны былі гранаты (лістоўкі з вясёлымі беларускімі рыфмамі з нагоды «крывой восі» Гітлера-Мусаліні перад гэтым таропка сунулі пад сяннік у суседнім пакоі). Паратунку не было, і я, нядаўна такі адчайны ваяка, глядзеў толькі на маці — з зусім дзіцячай мальбой-упэўненасцю, якая раптам вярнулася: яна выратуе, мама, самая разумная, самая надзейная, самая прыгожая!.. Раптам яна, што моўчкі і строга глядзела на захопленага сваёй уладай хама, упала на стол

рукамі, галавой, тварам і зарыдала. Хай будзе што будзе, але чаму так, чаму так!.. О, колькі святой шчырасці і жаночага жаху перад тым, што адбываецца, перад будучыняй было ў тым плачы. І яшчэ — беспамылковы інстынкт маці, якая ратуе гняздо!..

Ужо праз дзень паліцай апамятаўся і, відаць, раззлаваўся на насланне, якое яго тады прымусіла сказаць: «Ад мяне ўсё залежыць, не стану я наносіць знявагу сям'і доктара, вам, мадам Адамовіч». І ён сапраўды пайшоў, павёўшы балвана-немца. Назаўтра к вечару з'явіўся зноў, п'яны, нахабны,— паведаміць, якая ў глушанскага доктара прыгажуня-жонка. Мама слухала, паспрабавала абудзіць у ім яго п'янае сумленне, сорам, але паліцай усё пагражаў, патрабаваў «павагі» да сябе, да сваёй вінтоўкі-дзесяцізарадкі, гранаты-«лімонкі». («Вось так — і хаты вашай няма!»)

— Хопіць! Заўтра ж пайду ў камендатуру!— не вытрымала гаспадыня, прыгразіла.

— Пойдзеш!— наліўся гневам на няўдзячную паліцай.— Не сама пойдзеш, цябе павядуць. Як міленькую.

І вываліўся ў цемру.

А яна сапраўды пайшла ў камендатуру, разумеючы, што спыніцца ўжо немагчыма. («Загубіць ён нас, загубіць!..»)

Раніцай, прадбачліва справадзіўшы нас да знаёмых у вёску.

І мы пайшлі, трое мужыкоў, ці амаль мужыкоў (з намі і швагер, які жыў з сям'ёй у нашым доме), і там чакалі, а ўсё гучала ўмольнае: «Толькі не вяртайцеся дзеля мяне, дзеткі, толькі не вяртайцеся!» Як зрабілі б, калі б яе забралі заложніцай і запатрабавалі да адказу яе сыноў, да гэтага часу боязна дадумваць усё да канца!..

А яна пайшла ў камендатуру і прама заявіла: «Ці арыштуйце нас, ці дайце нам жыць, а інакш мы вымушаны будзем пайсці ў лес. Вось так у вас і робяцца партызаны. Гэты паліцай, гэты Гузікаў, прыходзіць п'яны, пагражае, патрабуе бог ведае чаго...»

Хто ён быў, той нямецкі камендант, што яму ўбачылася, падумалася, можна толькі гадаць. Па яго ўчынках. Ён не загадаў жанчыну арыштаваць, схапіць усіх, хто ў яе там дома,— менавіта так ён павінен быў зрабіць, адпаведна жалезнаму іх правілу. Замест гэтага ён раптам сказаў, а перакладчык фольксдойчэ Барталь радасна пераклаў: «Пан камендант верыць вам, ідзіце і спакойна жывіце, паліцэйскі будзе пакараны». Праўда, ужо ўвечары, калі і мы вярнуліся са свайго сховішча, Барталь забег і папярэдзіў, што камендант выпусціў Гузікава з «халоднай», паклікаў да сябе і загадаў не спускаць вачэй «з дома гэтай жанчыны». Відаць, быў момант пры гэтым, калі два

мужыкі, немец і наш, зірнулі адзін на аднаго здзіўлена-запытальна: што гэта яна з намі, ведзьма, прарабіла?!

Але міг быў выйграны, выратавальны, які вырашыў наш лёс. І, можа быць, не толькі наш. Вырашана было неадкладна ісці ў лес, у атрад, сем'яў дзесяць падпольшчыкаў пакінулі пасёлак у адну ноч пад прыкрыццём партызан.

Да дваццацігоддзя Перамогі прыслалі маёй маці медаль «За адвагу» (ужо раз атрыманую). Яна не абрадавалася — спалохалася: «Што гэта? Ці зноў вайна? Зноў мы патрэбныя?»

Яна таксама, асабліва пад канец жыцця, раптам пачынала ўсё перажытае ў вайну ўспамінаць, расказваць. Але ніколі не плаціла вайне даніну, як часам плацім мы, хто піша пра яе. Прыхарошванне вайны праз любаванне сабою — там, на вайне,— гэтага ні разу ў ёй не адчуў. Як не адчуваў у жанчынах беларускіх Хатыняў (ды і ў мужчынах).

Спачатку вайна забрала ў яе ўсё і яе самую ўсю забрала. Што ж, такі быў час. Але вось вайна скончылася, жанчына, якая ўсіх згубіла (у адным баі — абодвух сыноў, ёй так паведамілі), знайшла раптам нас усіх (мой старэйшы брат не пісаў ёй з арміі да самага Дня Перамогі, «каб не хавала двойчы»). І муж адшукаўся, наш бацька, які за вайну стаў падпалкоўнікам медыцынскай службы.

Вось тут яна і разлічылася з вайной. Па-свойму, па-жаночы. Сама аб гэтым любіла ўспамінаць. Пра сваю паездку ў Роўна. Наступіў момант рашаць, ці ёй рабіцца жонкай падпалкоўніка, ці яму — зноў вясковым урачом. За тры вайны (вызваленне Зэходняй Беларусі, фінская, Айчынная) бацька наш з чалавека зусім цывільнага ператварыўся ў тое, што называюць «ваеннай костачкай». Весела і па-жаночы звысоку ледзь-ледзь гучаў мамін расказ пра тое, як маёры, падпалкоўнікі і нават адзін генерал (Пухаў, з якім бацька сябраваў да самай смерці) падрыхтаваліся перамагчы яе — не аддаць Міхаіла Іосіфавіча, а наадварот, яе зрабіць жонкай афіцэра. Жанчына выслухала ўсе натхнёныя тосты, паракаштавала закускі (запомніліся вялізныя біфштэксы), а потым: «Я ўстала і сказала: дзякую вам за ўсё, але не, Міша, збірайся, едзем, біфштэксы не знаю, але бульбачка будзе, я абяцаю...»

Калі трэба было ўсім ахвяраваць, яна — любоў — першая кінулася насустрач небяспецы. Нянавісць падаспела потым, я гэта добра помню. У нас у Глушы ўсё пачалося — і супраціўленне, і падполле — з таго, што жанчыны кінуліся ратаваць нашых ваеннапалонных. Як уласных дзяцей.

Ну што ж, раз ужо я ўпамянуў артыкул з «Нового времени», на які спасылаюцца нямецкія чытачы «Карнікаў», паўтару некаторыя факты, думкі адтуль.

...Пасля заявы Савецкага ўрада аб нечалавечым абыходжанні з ваеннапалоннымі, іх, савецкіх ваеннапалонных, пачалі раз на тыдзень прыводзіць у глушанскую бальніцу і аптэку «на лячэнне». Карміць па-ранейшаму не кармілі, але з усіх сіл пачалі рабіць выгляд, што лечаць. Кожны аўторак сотню ці дзве галодных да вар'яцтва людзей прыга-нялі да аптэкі (за сцяной сядзеў мясцовы ўрач) «атрымліваць лякар-ства».

Даведаліся аб гэтым нямногія, але здарылася надзвычайнае. К трэцяму аўторку бабы з самых далёкіх вёсак (не гаворачы ўжо пра пасялковых) панеслі ў аптэку ў кошыках, мяшочках ежу — «ля-карства» для палонных. Нават бульбу ў чыгунках. Была апаска, што даведаюцца паліцаі, дазнаюцца немцы: і першы, і другі, і трэці тыдзень прайшлі ўдачна. Думаю, што калі нават і ведаў хто-небудзь з паліцаяў, не адважыўся данесці на ўсю акругу.

Правал здарыўся па неасцярожнасці галоднага чалавека. Помню я гэтага палоннага: выпіраючы рот нябожчыка і запалыя вочы з вар'-яцкім бляскам. Ён адной рукою трымаў каля рота кавалачак хлеба з сырам і глытаў, глытаў, а другою цягнуўся да жанчын, каб узяць яшчэ. Мама дала яму другі кавалак. Уцягнуў хлеб у рукаў, выпхнуўся на вуліцу, але не вытрымаў і адкусіў, а немец заўважыў, падбег, ударыў, выхапіў хлеб і, высока трымаючы яго, як доказ, уляцеў у аптэку. Стаў прабівацца, крычачы, праз натоўп палонных. Мама паспела нам (мы з братам насілі ежу з падмосця) шапнуць: «Хавай-цеся». Раз'юшаны ахоўнік дабраўся да шкляной стойкі, дзе мама ўзважвала парашкі. Да яе і рынуўся немец з абвінаваўчым кавалкам хлеба, падняў над яе галавою бярозавую дубіну. Аптэчныя работніцы потым гаварылі: яна пабялела, але глядзела прама ў вочы, а немец ударыў не яе, а па вяртушцы з лякарствамі.

І сталі выганяць палонных. Іх павялі, а маму — загадчыцу аптэкі — тут жа выклікалі ў камендатуру. Там ёй сказалі: «Яшчэ паўторыцца, і не будзе ні аптэкі, ні загадчыцы!»

Так, пачыналася з нармальнай рэакцыі людзей на «жыццё навы-варат», якое ўсталявалася з прыходам акупантаў. Чалавек будзе адкідваць руку, якая перашкаджае яму дыхаць, чым бы яму гэта ні пагражала. Не рабіць гэтага ён проста не можа.

* * *

Цяпер пра трэці «эпіцэнтр».

Нядаўна ўзяўся праглядаць запісныя кніжкі 40-х, 50-х гадоў і быў уражаны: гэта ж і тады думалася амаль тымі ж словамі — «ядзерная катастрофа», «пагібель цывілізацыі, рода чалавечага»... Хоць здавалася чамусьці, што ў табе гэтыя думкі ўзніклі намнога пазней. Але ўразіла і іншае: як не трымаліся раней думкі пра гэта ў свядомасці, у душы. Узнікалі час ад часу і знікалі без глыбокага следу, таму і здавалася, што пачалося толькі ў 70-я, у 80-я.

Калі апаліла. Як раней апаліла вайна. А потым XX з'езд.

Не, сёння не так: зайшло і выйшла. Яно зайшло і засталося. Ціснучы, адціскаючы ўсё астатіняе.

...Неба перадвячэрняе (або ранішняе, або ўдзень) за горадам, калі яго, неба, пачынаеш заўважаць, але як: *вось яно заўсёды было якое, а стане скрозь, да касмічных вышынь, скрозь сажа, ядзерная ноч. А годам пазней — брудна-бурае, без адзінага блакітнага акенца! І не будзе каму думаць, якое яно. Ні тых вунь дамоў не будзе, ні лесу на даляглядзе...*

Заяц ля дарогі, пераскоквае з месца на месца, ускідваючы такія нялоўкія, калі не імчыцца, а вось так гуляе, доўгія заднія ногі, якія, здаецца, перашкаджаюць яму... Поле ціхае і бязлюднае на ўсе бакі, па-майску смачна-свежае. Так добра, што не заўважае мяне і магу за ім назіраць. Вось і любуйся, радуйся, дык не: *колькі такіх вось жывых камячкоў адразу ўспыхне на ўсёй зямной паверхні або абвугліцца, спёкшыся, на глыбіні да метра і больш!*

Прачытаў нядаўна: нейкі харвацкі фюрэр-фашыст, які тужыць у эміграцыі па страчаных магчымасцях на радзіме, возіць з сабою карабок, дваццацікілаграмовы, у якім... вочы! Вырваныя ў палонных або забітых партызан.

*Бомба-фашыст таксама перш за ўсё да жывых вачэй пацягнецца, калі ўспыхне тысячамі сонцаў. Яшчэ і сапраўднае сонцаператворыць у спадручнага-паліцая, які выпальвае, вырывае вочы ва ўсяго жывога.*

Калі пісаў «Хатынскую аповесць» і прывёў партызана Флёру Гайшуна на папялішча яго хаты, вёскі, дзе фашысты ўсіх спалілі, прымусіў яго адчуць пранізлівы да локця, да пляча боль ад выпадковага апёку — неасцярожна раздушыў гарачую бульбіну. Некалі я сам, забаўляючыся на полі, упаў і рукой раздушыў проста з кастра, з жару бульбіну, а потым, як і мой Флёра, хапаўся за ўсё, што магло астудзіць боль. Але што магло астудзіць Флёраў боль, калі перад вачамі ў яго пажарышча, дзе жыўцом згарэлі маці, сястрычкі, усе жыхары вёскі?

Больш за восемдзесят тры тысячы чалавек забіта, згарэла ў беларускіх Хатынях.

Наша беларуская Хірасіма!

Які ж гэта быў выкід у неба болю чалавечага, да якіх сфер касмічных ён дастаў!

Найтанчэйшая, эластычная мембрана жыцця, якая дыхае,— чалавечая скура. Колькі яе *на чалавеку*? А на ста тысячах?

Сотні, тысячы квадратных метраў, кіламетры невыноснага болю!

Жывая, эластычная... А калі пра ўсю падумаць, *якая на чалавецтве*,— белую, жоўтую, чорную? Не апаліць, не прапаліць да нутра сама думка пра гэта?!

Але куды ад яе схавацца, ад такой думкі?..

І ўсё ж самая галоўная думка, галоўнае веданне — нават не пра сусветны гэты боль. А пра тое, *што бомба заб'е ўсіх*. У літаральным, у арыфметычным значэнні слова *ўсіх*. А значыць — *назаўсёды!*

Пачуццё роду, яно выяўляецца, гаворыць у нас, заяўляе пра сябе нават мацней, чым мы ўяўляем. Калі падступае, падступіла такое — найрэальная пагроза поўнага нашага знікнення.

І ўсё ж кожны сам павінен прайсці нейкі ўчастак шляху — насустрач усёй праўдзе. Ісці насустрач ёй — ісці да выратавання.

«Што я магу, я, менавіта я?..» — колькі людзей задае гэта пытанне сабе і іншым.

Але ж гэта *можа* кожны — пазнаць праўду. Або хоць бы імкнуцца да таго, каб пазнаць яе. Але толькі *ўсю* праўду, якая б ні была яна жахлівая. Вось тады і адкрыецца, што ты, кожны, можаш. А дакладней, што ты *павінен*. Паколькі, пазнаўшы, вымушаны будзеш (бязлітаснай праўдай вымушаны) шукаць шляхі да дзеяння, учынку.

Чытаю зборнік артыкулаў, выступленняў на міжнародных кангрэсах П. Л. Капіцы — аднаго з буйнейшых фізікаў XX стагоддзя, і тут выяўляецца пацверджанне сказанаму вышэй. Памёр ён змагаром супраць смяротнай пагрозы, якая зыходзіць ад ядзернай зброі. Але ж ў 40-я, 50-я гады ён яшчэ схільны быў сябе і іншых супакойваць: маўляў, паводле дадзеных, якія ёсць цяпер у навуковай літаратуры, «можна заключыць, што атручванне атмасферы нават пасля самай буйной атамнай вайны не прывядзе да спынення жыцця на Зямлі. Да таго ж нельга забываць, што, як паказвае гісторыя чалавецтва, нават у час эпідэмій самых жахлівых хвароб заўсёды знаходзіліся асобы, якія мелі прыроджаны імунітэт, якія не гінулі і не гублялі жыццяздольнасці»[3] І г. д. і да т. п.

---

[3] Капица П. Л. Эксперимент. Теория. Практика. М., 1972. С. 292.

І ён жа у 1972 годзе: «Агульнапрызнана, што такая вайна, дзе б яна ні ўзнікла, за некалькі гадзін магла б атруціць увесь зямны шар і спыніць жыццё чалавека»[4].

Так і да агульнапрызнанага кожны павінен прыйсці і прыходзіць сам. Калі, вядома, гаварыць не проста пра «паглынанне» інфармацыі, а пра адпаведныя «рэакцыі паводзін»: *я гэта прыняў, увабраў у сябе, а таму ўжо не магу думаць, адчуваць, дзейнічаць, жыць — як раней, учора!*

Ці не з гэтага: усведамленне, разуменне, што знікне *ўсё і назаўсёды* і ніякіх шанцаў выжыць няма і *ні ў кога* — усё пачалося, адбылося і ў Бернара Бансана? Ён нажыў мільярд на таленавітых кібернетычных ідэях, якія прагна падхоплівалі фабрыканты зброі, але калі зразумеў, куды ўсё ідзе-коціцца, чаму сам служыць,— рэзка змяніў лад жыцця, дзейнасці, а мільярд аддаў на справу міру, абароны, выратавання ўсіх дзяцей Зямлі.

Ці лёгка генералу ахвяраваць кар'ерай, павагай сваёй касты, але ж многія ідуць на гэта, як заходнегерманскі генерал Герт Бастыян, нарвежскі — Юхан Крысці, італьянскі — Піна Пасці, французскі — Антуан Сангінэцці і інш. Свой воінскі абавязак яны бачаць у тым, каб процістаяць сваім дзяржаўным мужам, якія ігнаруюць або проста не ўсведамляюць, што азначалі б ядзерныя ўдары па ваенных і апаратыўных аб'ектах, абмежаваная і ўсякая іншая «прэлюдыя» да вайны, якая не можа не ператварыцца ў тэрмаядзернае пабоішча — забойства ўсяго жывога на Зямлі. Калі ядзерная вайна азначае немінучую пагібель усіх народаў, якія ваююць і якія нават не ваююць, дык у чым вышэйшы патрыятычны, воінскі абавязак нават ваеннага чалавека, як не ў адным-адзіным: рашучым процідзеянні падрыхтоўцы і развязванню такой вайны. Вось ён, галоўны прынцып паводзін, дзейнасці генералаў-пацыфістаў. (Ды хіба можна было калі-небудзь у даядзерныя часы ўявіць гэта: генералы-пацыфісты?)

Так што ў псіхалогіі ядзернай эры ёсць і свая спецыфіка.

Мы самі назіраем, што адбываецца з нашым братам-пісьменнікам: учора жыў, як заўсёды, у адным свеце і раптам — быццам на другой планеце апынуўся!

Што «я памру» — гэта ведае кожны, але нейкім донцам душы кожны ў гэта ўсё роўна не верыць, ды і тэрміну свайго не ведаем, і тое добра.

Добра, радасна было не верыць і ў смяротнасць роду чалавечага.

---

[4] Тамсама. С. 421.

Чалавек, лічылі нашы дзяды-прадзеды, смяротным стаў, з'еўшы плод з дрэва пазнання. Унукі-праўнукі ўдакладняюць: чалавек таму і чалавек, што ведае, у адрозненне ад жывёл, што ён, як і ўсё на свеце, смяротны. Так што смерць (у гэтым сэнсе) сапраўды ўзыходзіць да ведаў, пазнання. Таму і гаварылі: памнажаючы веды — памнажаюць скруху...

Але прабацька наш, першы чалавек, з'еў не самы вялікі і небяспечны плод, і таму род яго ў цэлым, так сказаць, заставаўся неўміручым. Да 6 жніўня 1945 года, калі смяротным стала раптам усё чалавецтва. Сарваны быў зусім іншы плод, які дае веданне, як забіць неабмежаваную колькасць да сябе падобных.

І адразу на ўсё ўпаў густы цень: за спіной у людзей раптам зачыніліся, па-зладзейску закрыліся вароты, як пастка!..

На месцы многіх нашых Хатыняў узвышаюцца цяжкія пліты, стэлы, а на іх слупкі прозвішчаў, дзесяткі аднолькавых прозвішчаў (толькі ініцыялы розныя): Камінскі, Камінская, Камінскі... Грыцэвіч, Грыцэвіч, Грыцэвіч, Грыцэвіч... У хатах, хлявах, свірнах, царквах жыўцом згарэлі не проста сем'і, а цэлыя роды вясковыя. Дрэвы родавыя з усімі каранямі і галінкамі — і дзяды, і ўнукі-праўнукі.

Ну, а сённяшнія шматмільённыя гарады, на якія нацэлены, вось-вось гатовыя вырвацца з шахтаў, з-пад вады, сарвацца з крыла самалёта ракеты з ядзернымі боегалоўкамі, што яны такое, гарады Зямлі,— ці не тыя ж «свірны», «хаты», дзе ўжо сабраныя людзі, а сцены аблітыя бензінам, абкладзеныя саломай і нехта запальніцу трымае ў паслухмяна напружанай руцэ? Людзі нават могуць убачыць такую вось руку — на ўсюдыісным тэлеэкране — руку, якая нясе за ўсмешлівым чалавекам чамаданчык з кодам, шыфрам Суднага дня. (*І там, тады* яны, асуджаныя без суда, выглядвалі ў вокны, у шчыліны, услухоўваліся ў бразганне бензінавых каністраў.)

Гарады-Хатыні!.. Краіны-Хатыні!.. Кантыненты-Хатыні!.. І, нарэшце, уся планета, падрыхтаваная, каб успыхнуць і абвугліцца за нейкія гадзіны, хвіліны!..

Ды хто пасмеў! Хто гэта мог і як дазволілі людзі?

А вось жа пасмелі і нават не хаваюць свой «чамаданчык», нават бравіруюць, ганарацца: яшчэ б — касмічная моц у руцэ вартага жалю смяротнага!..

Адбылося гэта, адбываецца, небяспечна доўжыцца, і канца гэтаму пакуль што не відно, таму што не адзін толькі салдафон Хейг з яго знакамітым «ёсць рэчы важней за мір», а занадта многія на гэтай планеце ўсё яшчэ калі не кажуць: «Мір, але любой цаной», то думаюць, калі не думаюць самі, то згаджаюцца, каб думалі іх кіраўнікі, і ўсё

таму, што *да канца дадумаць* або не знайшлі часу, або баяцца, не адважваюцца, або проста не здольныя.

Калі кажуць табе або сам ты: ды што я, я асабіста, што я магу? — адказ адзін: дадумай да канца, менавіта да канца, не дазваляючы сабе адхіліцца ўбок, адвільнуць ад *усёй праўды* — за сябе дадумай, а калі трэба, то і «за таго хлопца», у якога «чамаданчык». Калі ўжо, паназіраннях вучоных (японскіх), працэс пазнання (пераймання) і празарэння можа лавінападобна ахапіць нават статак малпаў (эфект «сотай малпачкі»: пасля яе раптам усе тысячы малпаў, на ўсіх астравах, сталі таксама мыць салодкі батат, замест таго каб есці з пяском) — тады чаму і табе не спадзявацца, што з цябе якраз і пачнецца ланцуговая рэакцыя празарэння, таго самага дадумвання да канца! А ці ёсць на Зямлі або ў галовах людзей нешта такое, дзеля чаго можна, дапусціма трэба рызыкаваць такой простай і вялікай рэччу, як жывая клетка, якая самадзеліцца? У якой усё і без якой нічога — ні капіталізму, ні сацыялізму, ні мінулага, ні сённяшняга, ні будучыні.

Усе нішы ў свядомасці сваёй абмацаць жорстка логікай «ядзернай эры», усе лагуны мозга, дывертыкулы затоеныя, дзе хаваюцца хітрыкі ўчарашняга розуму, старажытныя забабоны, даўно ці раптоўна састарэлыя ісціны, і не палохацца, калі раптам прагучыць ці то ў табе, ці то ў нечых старонках, у нечых вуснах: не толькі дрэнны мір лепшы за добрую вайну, але і любы — лепшы! Непараўнальна, несупаставіма лепшы.

Ды гэта ж толькі па звычцы, па аналогіі з мінулым называецца «вайной» — тое, што сёння супрацьпастаўлена «міру». На самай жа справе яно нешта зусім іншае, па-за ўсякімі аналогіямі і супастаўленнямі. Людзям ва ўсім свеце па-ранейшаму ўнушаюць, звыклым спалучэннем слоў, паняццяў: трэба быць гатовымі да вайны! Страшнавата, але як быццам знаёма. Але калі папраўдзе, дык варта б казаць: трэба рыхтавацца, быць гатовым да самазабойства. Так, не вайна ўжо гэта, а самазабойства і нешта іншае, менавіта *омнецыд*, як нехта вызначыў,— усеагульны генацыд, самагенацыд чалавецтва!

Дадумваць, дадумваць да канца! Ці не ў гэтым паратунак?

«Свету загінуць ці мне чаю не піць?..» — выбар цалкам са сферы высокай палітыкі, словы «падпольнага чалавека» Дастаеўскага вось так загучалі: *быць мёртвам, або быць чырвоным, або быць не чырвоным?*

Сыходзячы да чыста бытавой свядомасці, таксама сёе-тое знаходзім, адкрываем. Яна стараецца сябе не дэкляраваць, не фармуляваць — на тое яна і бытавая,— але таксама ўтрымлівае ў сабе нешта. Сябра-філосаф аднойчы спалохаўся вельмі простай думкі: а

свет жа можа загінуць проста таму, што нехта пашкадуе чырвонца. У любой валюце. Пашкадуе ахвяраваць ім або пажадае «даатрымаць» яго. У выглядзе менавіта чырвонца. Або ўзнагароды. Або павышэння па службе. І да т. п.

Прытым нехта вельмі канкрэтны — з імем-прозвішчам, месцам жыхарства, пасадай, з пашпартнымі асаблівымі прыкметамі або без іх.

Ён не пытае: што я магу, я, менавіта я? — перш чым дзейнічаць, гэта значыць існаваць паводле законаў адвечнага эгаізму, а таму цісне на сусветную сітуацыю неадступна і ўвесь час, як атмасферны слуп. Ён масападобны, але складаецца з індывідуумаў. І вось апошні, вырашальны драбок нейчага эгаізму на шалях сусветных вагаў і...

«Свет загінуў таму, што чалавеку было лягчэй памерці, чым змяніцца». Гэта — з рамана «Катастрофа» Эдуарда Скобелева, у якім аўтар задумваецца, ад якіх заган, якасцей чалавечых надыдзе, надысці можа ядзерны Армагедон.

Так, горка пра такое пісаць, усведамляць такое, але ўзрушэнне патрэбна, і яшчэ якое. Жыць, як жылі, думаць, як думалі, адчуваць, як адчувалі,— небяспечна, смяртэльна небяспечна для ўсіх людзей.

Не, усё-ткі яны змяняюцца — і ў масе, і індывідуальна. А інакш адкуль бы ўзяцца: маршам хатніх гаспадынь праз цэлыя кантыненты, лагеру ў Грынэм-Коман?..

Калі Марш міру-82 праходзіў па хатынскім лесе апошнія 5 кіламетраў да мемарыяла, позірк не-не дый вяртаўся да непрыгожа поўнай, з задышкай жанчыны ў лёгкай квяцістай сукенцы, для якой кожны крок азначаў востры боль — ногі ацёчныя, у сініх вінаградзінах успухлых вен. Твар вялікі, потны, чырвоны, недзе на вакзале магла б сысці за звыкла раздражняльны вобраз у натоўпе, ад якога няма куды дзецца. Тут, за дзве тысячы кіламетраў ад свайго дому, ад дзяцей і, мусіць, унукаў, яна была прыгожая. Стаіць перад вачамі і цяпер. Чаму голуб — сімвал міру?— пытае ў адной з мініяцюр сваіх Янка Брыль. І прапануе ўзамен: толькі што са сну, з хітрынкай, «рассмяянае» дзіця. А ў мяне ў вачах — хатняя гаспадыня з вялікімі нагамі на далёкай для яе лясной дарозе да Хатыні...

Не, не чакае асуджана, безгалоса свайго канца планета людзей. Не маўчыць Зямля. Людзі ўжо бачаць, што супраць іх падрыхтавана, ужо чуюць бразгатанне каністраў...

Цішыня — у бункерах. У супербункерах, «выжывалках». Там — так.

У «выжывалцы», куды зазірае чытач рамана Э. Скобелева, прадугледжана ўсё: ад сексшопаўскага інвентару да морга. Але галоўнае,

што прадугледжана: каб не праніклі туды тыя, што не ў асобным спісе. На ўсіх не хопіць. Астатнія — у зусім іншым «спісе», мысленным. Увесь фокус у тым, каб у патрэбны момант самому застацца тут, астатніх пакінуць там.

«Я баялася, што тыя, звонку, не дадуць зачыніцца люку. Я розум страціла ад страху, ведаючы, што яны, калі пранікнуць у сховішча, разарвуць мяне ў клочча... Але ўдача — люк закрыўся... На падлозе валяліся адрэзаныя кісці рук. Дзве чорныя і адна белая...»

У бункер-«выжывалку» трапілі не тыя, хто яго канструяваў, у думках абжываў, любуючыся і радуючыся, як усё здорава прадугледжана. Спрацавала выпадковасць. Зрэшты, больш чым заканамерная, калі гаворка ідзе пра вайну. На вайне выпадак занадта часта — гаспадар становішча, ходзіць у генеральскім мундзіры. А тым больш калі гаворка пра тэрмаядзерную. Тут ужо дакладна: скамячыць, развее любыя падлікі-разлікі самых вялікіх хітруноў-разумнікаў. Так што дзіцячы гэта занятак — іх бункеры-«выжывалкі». Але і злавесны. І проста подлы. «Праскрыпцыйныя» фактычна спісы ўласнага насельніцтва — усяго. За выключэннем нямногіх абраных, званых. Уся подласць у тым, што сябе выдзелілі, ратуючыся не дзеля саміх быццам бы сябе, а дзеля таго самага насельніцтва. Каб яно, да апошняга знікшы з зямлі ў агні, у пакутах-сутаргах, усё ж аказалася «пераможцам». У «абмежаванай», у «зацяжной», «зорнай» ці якой-небудзь (паводле іх планаў) вайне.

Бункеры-«выжывалкі» — гэта нешта большае, чым жалезабетон і электроніка. Гэта — псіхалогія. Якая ўздзейнічае і на высокую палітыку, тым самым — на лёсы мільёнаў, мільярдаў людзей. Бункерная псіхалогія — з'ява зусім новая, народжаная ядзернай цывілізацыяй. Ёю многае тлумачыцца ў паводзінах некаторых асоб, здавалася б, нелагічных, незразумелых, невытлумачальных.

Многімі адзначана: прэзідэнт вялікай дзяржавы на пасадзе і пасля, адстаўлены ад спраў,— два розныя чалавекі. Паводле поглядаў на ядзерную пагрозу, на магчымасць перамогі ў ядзернай вайне і да т. п. І нават ваенны міністр зусім іншым чалавекам і палітыкам робіцца, калі ён, як Макнамара, пакідае пост.

Што гэта, псіхалогія вадзіцеля, які паратварыўся ў пешахода? Чалавек, пакуль сам не пасядзеў за рулём, за тармазамі, яшчэ можа верыць, што ўсе яны, вадзіцелі, народ надзейны і ўсё могуць (павярнуць, затармазіць), але калі ўжо сам пабыў вадзіцелем, пачынае баяцца, нават больш, чым звычайны пешаход. Ён-то ўжо ведае, як яно з кабіны бачыцца і можацца. Гэта значыць інфармаваны больш, чым астатнія.

Але, магчыма, не гэта або, дакладней, не толькі гэта, а і яшчэ нешта — у паводзінах адстаўных прэзідэнтаў, міністраў. Калі мець на ўвазе псіхалогію.

Так, Макнамара, аддадзім яму належнае, сёння адзін з аўтарытэтных крытыкаў нястрымнай гонкі ўзбраенняў, у якой і сам быў у свой час вінаваты.

Вельмі рэальная карціна: Каспар Уайнбергер разумна, цвяроза мяркуе пра катастрафічныя вынікі ядзернай супергонкі. Дзе-небудзь у пачатку 90-х гадоў, аддаліўшыся ад міністэрскага крэсла. І разам з тым — ад міністэрскіх «выжывалак». Вось-вось, ці не ў іх частка адгадкі, праўды?

Нешта не чутно, каб Збігнеў Бжэзінскі сёння выказваўся, як раней, у гэтым вось духу, смела і «шырока», што пагібель у ядзернай вайне ўсіх амерыканцаў і ўсіх рускіх яшчэ не азначае канца чалавецтва, а таму, маўляў, не так ужо страшна... Ах, дык ён ужо не саветнік па нацыянальнай бяспецы! А значыць, і не ў «спісе». Які, хоць і глупства,— нікому і нідзе не пераседзець, не пазбегнуць непрадказальных вынікаў ядзернага пабоішча,— але ўсё ж, усё ж небывалы жалезабетон, электроніка, а побач першыя ў дзяржаве людзі прадугледзелі, каб ім выжыць, не можа быць, каб не прадугледзелі. І галоўнае — сям'я, дзеці, дзеці! — дзеля іх на ўсё пойдзеш.

Так, і «бункерная псіхалогія» бацькоўскіх пачуццяў не пазбаўлена. А можа, нават на іх і трымаецца. Што яшчэ больш жахліва.

Часта мы сабе і адзін аднаму задаём пытанні (і самі на іх адказваем): не, не могуць і яны ўсур'ёз хацець вайны! Як бы ні бразгалі зброяй, боегалоўкамі. Што б і хто б ні гаварыў на публіку, кожны разумее, што адбудзецца і чым скончыцца, калі каму-небудзь пачаць.

«Не могуць жа яны не разумець, што трэцяя сусветная вайна прынесла б такія неўявімыя бядоты, што гэта азначала б канец для чалавецтва... Мне здаецца, ніводзін нармальны чалавек не можа жадаць гэтага»[5].

Ніводзін нармальны чалавек?.. Гэта, вядома, праўда.

Але ж не выключана, што да рулёў і кнопак прарвуцца істоты з псіхалогіяй, «ідэяй» знаёма-нацысцкай: гэтым жыць, а гэтым не, гэтыя чыстыя, а гэтыя нячыстыя!.. Або са знаёма палпотаўскай арыфметыкай: для таго-та нам досыць столькі-та мільёнаў чалавек замест наяўных 5 мільярдаў!..

---

[5] З інтэрв'ю касманаўта В. В. Аксёнава. «Век XX и мир», 1984, № 12. С. 23.

Вось і ў рамане «Катастрофа» Э. Скобелева нехта Сэлман прававацыйна, злавесна ўспамінае пра «клуб трохсот», дзе вырашаюць, змаўляюцца, да дзесяці ці менш мільёнаў скараціць насельніцтва Зямлі, каб «устараніць каласальныя біямасы», якія становяцца небяспечна некіруемымі для ўладыкаў гэтага свету.

Што ж, калі мог быць Гітлер, Пал Пот, мільянерскі «клуб сяброў рэйхсфюрэра», чаму не аб'явіцца зашыфраванаму «клубу трохсот»?..

Але нават калі не іх мець на ўвазе, усё роўна наша пераконанасць, што нармальныя людзі «не могуць», «не павінны» і да т. п.— таксама небяспечная. Ну, а калі змогуць, апантаныя д'яблам палітычных і іншых страсцей? Назад ужо не адкруціш: ах, выбачайце, памыліліся, пераацанілі людскую нармальнасць!

Далей, далей яе, бомбу, і ад нармальных таксама, а іх — ад бомбы! А то ж занадта многія прывыкаюць да думкі, што яна заўсёды пад рукамі, зноў і зноў з'яўляецца спакуса, калі не з таго, дык з другога боку, падступіцца да гістарычнага супраціўніка і пазбавіцца яго адным ударам. З космасу, напрыклад.

Тым больш што самім амерыканцам сёе-тое больш відно, вось і Эдвард Кенэдзі папярэджвае, што многія дзеячы ў адміністрацыі Рэйгана і пасля таго, як ваенны прамысловы комплекс атрымаў пажадлівыя новыя мільярды і як бы супакоіўся трохі, быццам удаў, які пераварвае праглынутае, тым не менш многія дзеячы, якія прымаюць адказныя рашэнні, «па-ранейшаму лічаць магчымасць абмену ядзернымі ўдарамі прымальным варыянтам. Супрацоўнік Савета нацыянальнай бяспекі прадказвае, што верагоднасць такога канфлікту складае 40 са 100»[6].

Гэты супрацоўнік, ён ужо ж у другім, не «праскрыпцыйным», спісе. Або прарываецца — у патрэбны, зарабляе права. Магчыма, зусім нармальны з пункту погляду медыцыны чалавек. Але ў тым жа і справа, што наяўнасць супербомбы і народжаная ёю «бункерная псіхалогія», усе надзеі на тое, што «вайны ніхто не хоча», робяцца надта хісткімі. Гітлеры, палпоты, яны зноў тут, на планеце — у гэтай самай бомбе. Не адыходзіць, і тут не адыходзіць ад рэальнасці, ад прыўды, усёй праўды![7]

---

[6] «За рубежом», 1985, № 3. С. 4.

[7] Сёння, калі ўжо прагучала найгуманная прапанова, якая так падбадзёрыла ўвесь свет,— паэтапна ачысціць планету ад зброі Генацыду, неяк няўтульна адчулі сябе «бомбапаклоннікі». Але робяць выгляд, што нічога не змянілася: як раней, «гарантам міру» называюць... бомбу. Бомбу — «кальтэнбрунэра», бомбу — «гімлера», бомбу — «гітлера». Так, гэтыя зберагуць!..

Даць, даць ёй выбухнуць, не бомбе — праўдзе! У нас выбухнуць — у літаратуры, кіно, у мастацтве. Каб як мага больш людзей успрынялі ўсю праўду, не ўхіляючыся ад яе,— вось першае і, мусіць, галоўнае сёння, да чаго абавязвае пісьменніка сама сітуацыя ў свеце.

Сапраўды, яшчэ раз праў Дастаеўскі, у якога раптам вырвалася: праўда вышэй за Пушкіна, вышэй за народ, вышэй за ўсё! Таму, відаць, што яна — сама ўмова існавання і «Пушкіна» (мастацтва) і нашага роду (на-роду).

Які, які яшчэ аргумент паслаць у бок «бункерных душ»?

Пасля ўсіх папярэджанняў вучоных. Пра ўсюдыісную, усёпранікальную (на дзвесце, на трыста год наперад) смяртэльную радыяцыю ад разбомбленых рэактараў — і пісалі, і гаварылі. Пра бясконцую ядзерную ноч і ядзерную зіму?— таксама вядома. Вучоныя прадказвалі, а цяпер ужо выяўляюць, што разбурэннем азоннага пласта, які адсякае ад нас ультрафіялетавую радыяцыю на высотах ад 17 да 25 кіламетраў, ствараюцца ўмовы для ўтварэння ў атмасферы фасгену (БАР — баявога атручальнага рэчыва!) і яшчэ больш небяспечных атручальных газаў.

Любое прымяненне ядзернай зброі літаральна сарве азонны шчыт, які жывому дазваляе жыць. І павіснуць над усёй планетай новыя БАР. Таксама на цэлыя дзесяцігоддзі.

Альберт Эйнштэйн разгадаў і вызначыў матэрыю як «застылую» энергію ($E=mc^2$), і адразу вучоныя занепакоіліся: а як чалавек распарадзіцца сваім лёсам, калі даступнай яму стане тая энергія, якая літаральна «пад нагамі» ў яго?

Нямецкі фізік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Вальтэр Нернст папярэджваў у 1921 годзе: «Можна сказаць, што мы жывём на востраве, зробленым з піраксіліну... Але, дзякуй богу, мы пакуль яшчэ не знайшлі запалкі, якая падпаліла б яго»[8].

Роберт Юнг у кнізе пра самую, мусіць, трагічную ў гісторыі чалавечай думкі старонку — пра стварэнне самазабойчай ядзернай зброі, піша і пра такія вось сумненні, якія ўзнікаюць пры распрацоўцы ўжо вадароднай бомбы: «Сярод пытанняў, якія належаць разгляду, адно было асабліва злавесным. У Берклі (дзе ў Каліфарнійскім універсітэце амерыканскія вучоныя-фізікі раіліся па пытанні «аб стварэнні найлепшага тыпу атамнай бомбы».— А. А.) успаміналася пра тое, што тэрмаядзерныя працэсы, аднойчы пачаўшыся ў выніку выбуху бомбы (вадароднай), маглі распаўсюдзіцца на атмасферу і воды зямнога шара. Нястрымная ланцуговая рэакцыя, народжаная

---

[8] Юнг Р. Ярче тысячи солнц: Повествование об ученых-атомниках. М., 1961. С. 17.

супербомбай, магла за кароткі час ператварыць увесь зямны шар у палаючую зорку»[9].

Разважалі, прыкідвалі, тэарэтызавалі — не павінна б! Рызыкнулі на практыцы праверыць свае разлікі. Ну, а каб не сышлася задача з адказам?.. Людзі, чалавецтва нават не падазравалі, якія эксперыменты за спіной у іх рабіліся — з іх планетай.

Ну, а каб колькасць перайшла ў якасць — пры адначасовым выбуху соцень, тысяч такіх бомбаў? Не павінна б?.. Ды хто мае права гадаць, прыкідваць і рызыкаваць пры гэтым усім, што нікому паасобку не належыць?!

За пасляваенныя сорак год узарвана 1500 ядзерных устройстваў. (Адна трэць — у адкрытай прасторы, дзве трэці — пад зямлёй.) Ніводзін вучоны не можа паручыцца, што адначасовы залп такой колькасці ядзерных зарадаў не ўцягнуў бы ў адзіную ланцуговую рэакцыю інертныя элементы, рэчывы планеты. А тым больш — дзесяткі тысяч зарадаў, якія могуць выбухнуць у любы момант. Якія ўжо тут «выжывалкі»? За пэўным «болевым парогам» Зямля сама можа ператварыцца ў звышбомбу, за выбухам якой таксама невядома што паследуе, адбудзецца — ужо з Сусветам. Так гэта ці не так — хто мае права эксперыментаваць?

Але ў тым жа і справа, што «смелых», а дакладней — тых, хто не дадумвае да канца, куды больш, чым хацелася б. І сярод вучоных, і сярод палітыкаў, ваенных. І на бытавым узроўні таксама.

У адказ на мае або Юрыя Каракіна артыкулы: «Нічога важней», «Не спазніцца!», «Яе спарадзіла вайна, фашызм», «Уявім сабе», «Прызнаць галоўнае — галоўным», «Жывы час», «Рабіце звышлітаратуру!.,», «Overkill» і інш.[10] мы атрымліваем пісьмы, якія спрачаюцца.

Упусціць у сябе ўсю жорсткую праўду, дадумаць да канца? І што з гэтага, што паследуе? Дзеянне, дзеянне ў чым выразіцца?

Талстой калісьці выказаў вельмі простую, але такую, выяўляецца, важную і патрэбную думку: складанасць пытання не ў тым, што рабіць, а ў тым, каб зразумець, што трэба рабіць раней, а што пасля.

Адкладваць «усю праўду» на потым, на пасля, і зноў пачынаць, як нам пішуць, гавораць, з даўняй руціннай працы па веравыхаванні чалавека, па дэмакратызацыі асноў жыцця (каб масы сапраўды маглі ўдзельнічаць у прыняцці рашэнняў) і г. д. і да т. п.,— ды хто нам на

---

[9] Тамсама. С. 224.

[10] «Век XX и мир», 1982, № 11; 1983, № 3; 1984, № 2, 6; «Литературная газета», 1984, 9 мая; «Вопросы литературы», 1984, № 6; «Октябрь», 1984, № 11; «Дружба народов», 1985, № 1 і інш.

гэта час адпусціў? Акрамя таго, і гэтыя задачы куды больш энергічна здольна літаратура выконваць, калі па-сапраўднаму данясе да чалавека жорсткую праўду: або неадкладнае і рашучае адмаўленне ад усяго, што пагібельна,— у чалавеку, у грамадскіх збудаваннях, або прымай яе, пагібель, як непазбежнасць!

Вяртаюся да старых запісных кніжак: выяўляецца, не так гэта проста і легка — зламаць у сабе самім перагародкі, адкрыць сябе ўсёй праўдзе, дадумваць і абдумваць да канца тое, што на нас навалілася. Хочацца пайсці з-пад гэтага цяжару, вызваліцца. Як можна з гэтым жыць, увесь час? — не раз і не два спытаюць вас.

Але ж мы з гэтым рэальна жывём, над гэтым жывём сапраўды. Не прыводзіць, не прывесці да згоды, у адпаведнасць свядомасць сваю з рэчаіснасцю — якія ж мы пасля гэтага разумныя істоты? І што нас у гэтым выпадку чакае?

Ведаць, каб змагчы! Менавіта літаратура, мастацтва здольныя данесці праўду да кожнага, даставіць яе ў кожную клетку адзінага і сёння, на жаль, смяротнага арганізма — чалавецтва.

Калі што больш за ўсё, мацней і глыбей за ўсё здольна ў бліжэйшы час паўплываць на ўвесь характар планетарнай культуры, на сам тып сусветнай літаратуры, дык гэта якраз працэсы ў свядомасці нашай, чалавечай, якія вызначаюцца ўсёй сукупнасцю падзей XX стагоддзя.

Гэта ж ісціна, што чалавек, што homo sapiens такі, які ён ёсць, у значнай меры таму, што ён — адзіная на Зямлі істота, якая ўсведамляе сваю смяротнасць, канчатковасць.

Знікні раптам гэта веданне, і як рэзка змяніўся б ён сам,— увесь — у звычках, паводзінах, у культуры, літаратуры, мастацтве.

Ну, а калі яшчэ адно такое, роўнае гэтаму веданне ўзнікла, што павінна адбыцца з тымі ж рэчамі? Відавочна, усё таксама павінна перамяніцца гэтак жа рэзка, буйна.

На нашым вяку гэта адбылося: чалавек выявіў, што і ўвесь род яго зрабіўся смяротным. Учора яшчэ будучыня яго была адпачаткова забяспечаная, ішла ў далячынь тысячагоддзяў, і раптам — рэальная верагоднасць знікнення ўсяго і назаўсёды на працягу хвілін, гадзін!..

І што змянілася: у паводзінах, у ты пе мастацтва, літаратуры і інш.? Сёе-тое змянілася, але не так ужо рэзка, буйна.

Пра што гэта гаворыць? Толькі пра тое, што яшчэ не адбылося сёння тое, што абавязкова здарыцца, адбудзецца заўтра. Свядомасць непазбежна паследуе за рэальнасцю. Рэальным стане і вымярэнне, унутранае, кожнага з нас, калі новая свядомасць стане фактам.

Так, але ці аўтабіяграфія гэта, ці так абазначаны жанр?

Усё залежыць ад таго, што лічыць фактамі. Ці лічыць фактамі нашага жыцця таксама і думкі, пачуцці, перакананні, станы, з якіх якраз і нараджаюцца задумы твораў? Калі гэта таксама факты (поруч з тым, дзе ты нарадзіўся, жыў, вучыўся і чым займаўся), тады данае ізлажэнне — таксама аўтабіяграфія. З ухілам, вядома, у бок «унутраных» фактаў за кошт «вонкавых ».

Што ж, так атрымалася, напісалася.

Калі ўжо ўсё гэта выказаў, напісаў, трапіліся на вочы словы скульптара Генры Мура («Новый мир», 1982, № 1, с. 67):

«Скульптар або мастак робіць памылку, калі ён занадта часта гаворыць або піша пра сваю працу. Гэта аслабляе неабходнае яму напружанне».

Наперад будзем разумнейшымі!

## З ЧАГО ПАЙШЛА, ПАЧЫНАЛАСЯ «БЛАКАДНАЯ КНІГА»

Алесь Міхайлавіч! У выступленнях па тэлебачанні, у інтэрв'ю Данііл Гранін, калі размова ішла пра Вашу з ім кнігу, не раз казаў, што «ідэя «Блакаднай кнігі» належыць беларускаму пісьменніку». Выглядае гэта трохі парадаксальна, калі не ведаць, што за гэтым стаіць, як яно пачыналася, з чаго. Ці не раскажаце Вы пра гэта...

З пісьмаў чытачоў

Выйшла неяк само сабой. Хоць цяпер, калі праца зроблена, пачынаеш думаць, што былі, былі нейкія нябачныя, але моцныя токі — ад Хатыняў да блакадных ленінградскіх трагедый — і што гэтыя токі, імпульсы якраз і накіроўвалі думкі і намеры беларуса, які ўдзельнічаў у стварэнні кнігі пра спаленыя вёскі,— накіроўвалі на Ленінград.

На Данііла Граніна «выйшаў», калі вырашыў гэтым заняцца сам. Бо спачатку пра гэта не думаў, а толькі хацелася запаліць той працай, што праароблена была ў Беоарусі, нечы там энтузіязм у Ленінградзе. А ты тут пры чым і хто цябе прасіў, просіць? Разумеў, што гэта так, сам з сябе пакеплівау, але нешта прымушала. Ды не нешта, а тое, што вайна была на ўсіх нас адна — Айчынная. Што ў Беларусі, што ў Ленінградзе. Акрамя таго, унутраны гул ад доўгае працы дома яшчэ працягваўся, і, можа, ён таксама падштурхоўваў, патрабаваў нейкага працягу, пашырэння той, такой жа працы. Тым больш што ва мне ўжо жылі некалькі ленінградскіх гісторый, такіх жа пранізлівых і балючых, як і нашы хатынскія. І пачуў я іх, дарэчы, ад Галіны Максімаўны Гарэцкай — так, дачкі нашага Максіма Гарэцкага,— калі ездзіў у Ленінград да сям'і пісьменніка, бо працаваў над кнігай пра яго трагічны лес і выдатныя творы. Вось колькі выпадковасцей і як усё здаецца заканамерна звязаным з «Блакаднай кнігай»: трагедыі нашы прывялі пошукі да ленінградскіх, бо, мабыць, як падземныя воды, адна з адной зліваюцца ўсе трагедыі веку.

Ну, хіба гэта вось не стаіць побач з «вогненнымі вёскамі» нясцішным болем?

...Жанчына-маці, каб уратаваць астатніх дзяцей, да канца месяца не заяўляе пра смерць свайго хлопчыка (хлебныя карткі!), хавае маленькага ў шафе.

...Пункт прыёму дзяцей-сірат, якіх збіралі ў жудасна ціхіх дамах «бытавыя атрады». Прынеслі хлопчыка; санітарка, добрая жанчына, суцяшаючы, цалуе яго. Азірнулася: усе дзеці, схуднелыя, з вялізнымі вачыма, выстраіліся моўчкі ў радочак, каб і іх таксама пацалавала...

Я шмат чытаў пра ленінградскую блакаду, але сэрцам зразумеў, як сябе адчуваў там чалавек, толькі пасля гэтых просценькіх гісторый, пачутых, як я ўжо казаў, ад Галіны Максімаўны Гарэцкай.

І я іх пераказаў аўдыторыі — пасля нашых хатынскіх — на адным з пасяджэнняў, сабраным у Маскве старшынёй бюро па публіцыстыцы і нарысе Канстанцінам Міхайлавічам Сіманавым (здаецца, у 1971 ці ў 1972 годзе). Пераказаў, каб паведаміць пра кнігу, якую мы, беларусы, робім, і адначасова спытаць, ці не робяць нешта падобнае ленінградцы. Бо гэта ж побач стаіць: трагедыя вёскі і горада ў сучаснай татальнай вайне. Нехта з ленінградцаў падыходзіў, гаварылі мы пра гэта, абмяркоўвалі.

Але не чутно было, каб нехта ўзяўся, і калі мне давялося (ужо ў 1974 г.) быць у Фёдара Абрамава, я паспрабаваў яму навязаць гэтую працу. «Там у мяне сялянскі куфар стаіць, ён гаспадар нада мной,— паскардзіўся Фёдар Аляксандравіч.— Пакуль не дабяруся да дна...» Але тут жа паведаміў, што папаўняецца куфар хутчэй, чым апаражняецца. Кожнае лета Фёдар Аляксандравіч сядзіць у сваёй Верколе, у Пінежскім раёне,— побач з Праслінымі і героямі будучых кніг пра лёс рускай вёскі...

Толькі пасля гэтага я адважыўся падумаць, што, мабыць, сам буду рабіць кнігу пра ленінградскую блакаду, вядома, у сааўтарстве з кім-небудзь з ленінградцаў. Акрамя Фёдара Абрамава, з якім знаёмы яшчэ з 1950 года, ведаў Данііла Граніна, але больш завочна — па творах яго, выдатных эсэ і праз кароткую перапіску (якраз з выпадку яго эсэ пра Пушкіна і Булгарына). Напісаў яму пра нашу беларускую кнігу, пра тое, як бачу ленінградскую. Усё гэта правільна, так, але дзе знайсці час? А ў Граніна з гэтай катэгорыяй быцця адносіны самыя строгія. (Нездарма ён аўтар найцікавейшай кнігі пра Любішчава — «Гэтае дзіўнае жыццё»,— дзе праспяваны гімн чалавеку, які за ўсё свядомае жыццё не страціў марна, не згубіў ніводнай хвіліны часу. Ніводнай! — у літаральным сэнсе.) Патрэбна было пераканаць чалавека, што гэтая праца — для яго асабіста і наогул — найважнейшая. А ён ужо жыве раней распачатымі творамі, пагружаны ў іх усёй істотай. І таму:

— Не ведаю, чаму за такую працу павінен брацца пісьменнік? Яна хутчэй журналісцкая. Але, хочаце, я знайду вам добрых сааўтараў.

І мы сабраліся на кватэры ў Данііла Аляксандравіча: акрамя нас з ім — яшчэ трое. Гаспадар, як бы падкрэсліваючы важнасць «гістарычнага моманту», шчоўкнуў клавішай магнітафона, уключыў:

— Ну, выкладвайце, Аляксандр Міхайлавіч, свае ідэі.

Я — усё спачатку: пра нашу беларускую кнігу, якая ўжо часткова надрукавана ў часопісах «Октябрь» і «Неман», пра тое, што і блакада чакае...

— А вы чыталі кнігі пра блакаду? Ці ведаеце хоць, колькі іх ужо ёсць? І дакументальных — не дзесяткі, сотні!

І я ўбачыў сябе збоку, вачыма тых двух ленінградскіх журналістаў. (Пра трэцяга — асобная гаворка.) Дзівак (ці, можа, нават горш) забег у чужы двор, дзе людзі з нараджэння жывуць, і хоча, спрабуе гаспадарам паказваць, дзе і што ў іх схавана, ляжыць ці стаіць...

Гэтулькі кніг — і добрых — зроблена, напісана, а ён хоча нешта тут адкрыць, быццам на новым месцы!..

Яны па-свойму мелі рацыю, гэтыя людзі, бо, мабыць, не здолеў, не змог я давесці, што новая кніга — хоць і сапраўды шмат ужо зроблена — не будзе ні паўтарэннем, ні толькі дапаўненнем, а нечым зусім іншым. І не дзякуючы нашай «геніяльнасці», а толькі таму, што пачнём з см мага простага і зробім самае простае: дадзім нарэшце выгаварыцца самой блакадзе, яе ўласным голасам выгаварыцца, выкрычацца, выплакацца...

Адзін Храпкоў Дзмітрый Цярэнцьевіч зразумеў, пра што гаворка, але і ён вымушаны быў адмовіцца :

— Я ўзяўся б, але ж гэта такая працаёмкая справа, а на мне цэлае выдавецтва!..

Калі госці пайшлі, гаспадар, на вачах у якога я так ганебна праваліўся са сваёй агітацыяй, мабыць, пашкадаваў мяне. (Тым больш што і яго місія сасватаць мне сааўтараў — таксама пацярпела крах.)

— Ну, калі так, вазьмуся я!..

Назаўтра мы паехалі запісваць першага блакадніка. 5 красавіка 1975 года — гэта я памятаю добра. Некуды на вуліцу Шалгунова — адрас мне дала усё яна ж, Галіна Максімаўна Гарэцкая. Блакадную гісторыю яе знаёмай я ўжо ведаў у пераказе і разлічваў, ва ўсякім разе хацеў, каб і Данііла Аляксандравіча адразу «зачапіла і пацягнула». Хоць і ведаў (з ранейшага вопыту), што трэба набрацца цярпення, бо з дзесяці — дванаццаці апавяданняў-успамінаў адно абавязкова будзе выдатнае. Але тут мне хацелася адразу ж пачуць, запісаць якраз такое...

Цуда, на жаль, не адбылося, і, сапраўды, толькі дзесятая жанчына расказала нам такое і так, што адразу бачны, зразумелы стаў узровень праўды, шчырасці, трагізму, які «зробіць кнігу». То была колішні камандзір групы самаабароны Дзмітрыева Марыя Іванаўна, тая самая, пра якую ў першай частцы «Блакаднай кнігі» мы не маглі

не напісаць: «Гэтая бессмяротная, гэтая вечная Марыя Іванаўна». Калі памятаеце — тая самая — тая самая работніца ЖАКТа, якая і праз 30 год адразу ж называе нумар кожнага дома, кватэры, кожнага са сваіх «жыллёвых аб'ектаў», успамінае аблічча кожнага жыхара, да каго бегла, паўзла над абстрэлам...

Не буду падрабязна расказваць, як мы — удвух ці кожны з нас самастойна — шукалі адрасы блакаднікаў, тэлефоны, ездзілі, хадзілі, знаёміліся, распытвалі, запісвалі. Ад чалавека да чалавека, ад кватэры на адным канцы вялізнага горада да дома, кватэры на другім. Усяляк бывала: на якой-небудзь бясконцай вуліцы Басейнай, дзе і дома не знайшоў і таго блакадніка не пабачыў, часам раптам убачыш самога сябе збоку — ды так востра ў тым вячэрнім «пецярбургскім» тумане! — і нейкі смех дурны: «Чаго ты тут? Чаму — ты? І каму гэта патрэбна?»

А канца справе не відаць, і ці будзе які-небудзь вынік? Усё больш палохала немагчымасць выстраіць нешта цэласнае з таго, што ў нас на магнітных касетах і што наша стэнаграфістка-машыністка Соф'я Сяргееўна Лакшын пераносіла на паперу. (Яна, наша самааддамая памочніца, якая і сама прайшла праз блакаду, так і не ўбачыла працы ў друку, мы яе страцілі на паўдарозе.)

Чым больш запісана ўспамінаў, чым больш у руках у нас дзённікаў, тым мацнейшае адчуванне, што мы ад сваёй мэты далей, чым у той красавіцкі дзень 1975 года, калі распачыналі справу. Успаміны на пяцьдзесят, на сто старонак кожны, сотні такіх запісаў-успамінаў, дзённікаў — цэлая гара, але як з гэтым выйсці да чытача, як зрабіць тое, што можна ўзяць у рукі і чытаць. Пакутліва хацелася скончыць працу, каб вызваліцца хутчэй, вырвацца. Вось дзе я нечакана гатоў быў пагадзіцца з ненавісным мне Заратустрам: калі ты глядзіш у прорву, дык і яна глядзіць табе ў душу!..

А нам ужо адкрылася прорва — масавы голад ва ўсёй яго блакаднай бязлітаснай рэальнасці, праўдзе.

Я ўсё ездзіў у Ленінград, кватэра Данііла Аляксандравіча і Рымы Міхайлаўны па вуліцы братоў Васільевых — наш «штаб», куды сцягваюцца ніці блакаднай памяці, гэтулькі, што ўжо і заблытацца можна. Бо пра нашу працу ўжо дачуліся, ужо звоняць, пішуць ужо нам, самі шукаюць нас, і тут ужо не адступішся, нават каб і захацеў. Ён нічога так не прасіў, ленінградзец-блакаднік, не патрабаваў, не хацеў для сябе — хоць патрэба была і не раз за пасляваенны час — як раптам тут прарвалася. Не просьба нешта даць яму, а ўзяць, узяць, узяць у яго — усю праўду!

«Горка і крыўдна часам пачуць ад якога-небудзь «разумніка»: «Ха, блакаднікі: добра, значыць, жылі, калі да гэтага часу яшчэ жывыя. Сапраўдныя блакаднікі даўным-даўно на Піскароўцы ляжаць». І яшчэ адзін дзеяч у юрыдычнай кансультацыі мне сказаў: «Што такое блакаднікі? Такога слова цяпер няма. Ёсць словазлучэнне — «асобы, якія перажылі блакаду».

«Дзякуй Вам, дзякуй тым людзям, якія расказваюць Вам пра блакаду, дзякуй, што Вы хочаце помніць пра блакаднікаў». (З пісьма Кавалёвай Вольгі Дзям'янаўны.)

Калі вуха, калі свядомасць увесь час настроены на адну хвалю, блакадніка пачуеш, адчуеш і далёка ад Ленінграда. Колькі я іх знайшоў (а пасля запісалі) у поездзе Мінск — Ленінград, які добра-такі абжыў за гады з 1975 па 1981. Ці такі вось выпадак: старая жанчына-мінчанка ўвесь час занята тым, што шукае, збірае і корміць на вуліцы, у двары бяздомных катоў, сабак (ці хоць бы галубоў),— сцэна не такая ўжо рэдкая ці дзіўная. Але нечаканыя словы яе прымушаюць мяне скалануцца: «Я не магу бачыць галодных. Я была ў вайну ў Ленінградзе»... Была ў блакадным Ленінградзе — гэта на ўсё жыццё.

Я ўсё ездзіў у Ленінград, вывучаў яго вуліцы і кварталы, можа, як рэдка хто з карэнных жыхароў горада: дзе тая вуліца Салдата Корзуна, дзе Басейная ці Новая, а ты, мінчанін, павінен пайсці па ёй, вышукваючы патрэбны дом, пад'езд, нумар. Звоніш і, калі не тлумачыў гэтага па тэлефоне, спяшаешся сказаць: «Вось мы з Граніным... Вы ж Граніна ведаеце?..» «Данііл Гранін... Мы з Граніным» — дзейнічала як пароль. (Толькі ў некаторых рэспубліках Сярэдняй Азіі, дзе тысячагадовая павага да кнігі і «вучонага чалавека», я заўважаў нешта падобнае.)

А з матэрыялам — чым больш набіралася, тым больш яго не хапала. Замнога — каб надрукаваць як ёсць замала — каб нешта галоўнае адкрылася, тая самая «агульная ідэя» твора.

Дзеля чаго мы патрывожылі, збіраем блакадную памяць, здаецца, ведаем. Каб не страціць назаўсёды народнай праўды аб трагічных і гераічных 900 днях Ленінграда, усёй праўды аб вайне. Каб даць выгаварыцца, выкрычацца памяці аб невыносным блакадным голадзе, аб жудасных стратах і каб яшчэ раз праклясці вайну — гэтага «жалезнага звера», кажучы словамі нашага Кузьмы Чорнага, які зноў і зноў шукае спажывы сярод людзей...

Усё так, але і наш жанр, як і кожны твор, патрабуе звышідэі, звышмэты. Не той, якую навязваюць «матэрыялу» ці прывязваюць да яго, а якая адкрываецца ў самім матэрыяле і праз яго, калі доўга ўглядацца.

Мы ўглядаліся, шукалі — пакуль, сапраўды, не адкрылася: а, *вось мы пра што!*

Гэта не адразу прыйшло. Спрачаліся: што трымала радавога ленінградца на такой гордай і цяжкай вышыні салдацкіх і чалавечых паводзін? Фашысцкія кіраўнікі разлічвалі, што «Ленінград выжарэ самога сябе»,— так і крычалі, і пісалі, бо танкам іх не ўдалося, але голад ужо ўварваўся ў Ленінград. А разам з голадам і тое, што, паводле іх разлікаў, павінна ленінградца расчалавечыць, ператварыць у бязвольную істоту — гэтага ж яны свядома дамагаліся ў сваіх лагерах. «Голад — наш саюзнік!»— крычалі яны і помсліва чакалі моманту, калі ў горадзе ўсё папаўзе па швах, бо не вытрымае сам чалавек, «распаўзецца»...

Так, дысцыпліна, арганізаванасць давалі грунт, апору нават слабым, а моцных мацавалі яшчэ болей — гэта важна памятаць. Але толькі гэта ўбачылі, зразумелі тыя, што хацелі задушыць Ленінград,— зразумелі потым, калі ім самім прыйшлося ратавацца ад расплаты ва ўласнай сталіцы. Ім, вядома, здавалася, што толькі на ваеннай арганізаванасці насельніцтва ўтрымаўся Ленінград. І вось ужо ленінградцы ставяцца ў прыклад берлінцам. Але не ўкусіць іх, «гэтых рускіх», яшчэ раз, хоць бы напаследак, Гітлер не мог: «Нават гэтыя рускія, гэтыя свінні, змаглі арганізавацца. Калі ў нас пачынаюць скардзіцца, я магу толькі сказаць, бярыце прыклад з рускіх у тым становішчы, якое ў іх было ў Ленінградзе... А як яны выстаялі ў крытычны момант!»

І пайшлі інструкцыі, наказы берлінцам: як арганізавацца, каб таксама «выстаяць». Цыркуляр Гімлера № 40/10. Гімлер падрабязна пералічвае мерапрыемствы, якія, на яго і Гітлераву думку, праводзіліся ў Ленінградзе. Досыць старанна пералічылі ўсё, пра што ведалі. І нават «дух ленінградцаў» — тое, што ў разлік браць не хацелі, калі душылі Ленінград пятлёй голаду, блакады. Праўда, убачылі, нагадалі толькі адно: «Нянавісць насельніцтва стварыла найважнейшую сілу абароны».

Так, пра нянавісць да сябе фашысты самі добра паклапаціліся — чаго-чаго, а гэтага хапала ва ўсёй Еўропе і ва ўсім свеце! Ды толькі не ёю адною ўзгадаваны быў і трымаўся «дух ленінградцаў».

Чым больш мы слухалі саміх ленінградцаў, вывучалі дакументы, чыталі дзённікі, тым больш нам адкрывалася адна з апор таго самага «духу ленінградцаў», на якім трымаўсм горад, бо трымаўся сам чалавек. Што Ленінград – адзін з самых культурных гарадоў у свеце, хто пра гэта не ведае. Што гэта горад-інтэлігент і паводле культурных традыцыіі, і паводле насычанасці музеямі, бібліятэкамі, навуковымі

ўстановамі, а галоўнае — па абліччы гараджан, па іх узаемаадносінах і адносінах да тых, хто ў Ленінград прыязджае,— таксама даўно лічыцца агульнавядомым. Рабочы клас у гэтым горадзе заўсёды славіўся не толькі тэхнічнай, але і агульнай культурай.

Усё гэта так, і ўсё, аказваецца, мае не толькі непасрэдныя адносіны да легендарнай стойкасці ленінградцаў у часе блакады, але і можа тлумачыць шматлікія канкрэтныя сітуацыі і лёсы, з якімі мы сутыкаліся ў часе працы над «Блакаднай кнігай». Вось тыя ж «паўсядзённыя запіскі» блакадніка Г. А. Князева ці дзённікі Юры Рабінкіна: як дакладна яны дакументуюць рух чалавека, калі голад ужо здольны адабраць, сапраўды «зжэрці» і сілы, і волю, і сумленне, і саму здольнасць супраціўляцца пагібелі. Фізічных, біялагічных калорыяў не стае, каб не памерці, а тым больш каб заставацца ранейшым чалавекам — кім ты быў заўсёды, але нешта ўсё роўна чалавека падтрымлівае, не дазваляе пераступіць «за рысу», дзе распад усяго, «маральная дыстрафія». І гэтае нешта — можа, якраз і ёсць тое, што не было ўлічана ў фашысцкім Берліне, хоць яны там усё астатняе (і досыць дакладна) падлічылі і вылічылі: колькі магло пратрымацца ў лютыя маразы чатырохмільённае насельніцтва Ленінграда, калі ў горадзе няма значных запасаў прадуктаў, паліва, не дзейнічае каналізацыя, няма вады...

Ленінград блакадны сказаў свету многае: і пра нечалавечае абліччa фашызму, які абраў голад сваім хаўруснікам, сродкам тэрору супраць мірнага насельніцтва, і пра тое, што можа вытрымаць і на што здольны наш народ, калі ён змагаецца за сваю і ўсяго чалавецтва будучыню.

Тое, што нам, аўтарам «Блакаднай кнігі», адкрылася праз доўгую працу, што нам Ленінград адкрыў і што мы хацелі сваёй кнігай таксама давесці,— гэта думка, перакананне, што інтэлігентнасць, унутраная культура — сіла, а не слабасць чалавека. Што праца розуму, духу, напрыклад, выратавала Г. А. Князева, а сіла любові дапамагла Лідзіі Ахапкінай (і не адной ёй) выжыць і выратаваць дзяцей — калі ўжо ніштo іншае дапамагчы ім не магло. Адзін з раздзелаў другой часткі «Блакаднай кнігі» мы спачатку назвалі «Хлопчык-інтэлігент». Вы, мабыць, здагадваецеся, што мы мелі на ўвазе Юру Рабінкіна.

Дык вось, звышмэта кнігі, якая неабходна, каб быў не проста помнік мінуламу, перажытаму, але і жывы кантакт з праблемамі сучаснасці, звышідэя «Блакаднай кнігі» адкрылася нам і для нас сфармулявалася іменна так, у гэтых словах: інтэлігентнасць, унутраная культура — сіла, а не слабасць чалавека. А таму, можа, у гэтым кірунку больш паслядоўна і настойліва трэба шукаць шляхоў і сродкаў для развязвання многіх глабальных праблем, якія іншымі сродкамі

развязаць не ўдаецца. (Дарэчы, на гэта зарыентавана і палітыка разрадкі, якую мы адстойваем, і якраз супраць гэтага зноў і зноў кідаюцца прыхільнікі «голай сілы».)

...Памятаю той дзень... Я ўсё прыязджаў у Ленінград — улетку і ўзімку, увосень і ўвесну,— я ўжо знаёмы быў з сотнямі жыхароў горада, якія ніколі не бачылі адзін аднаго. Данііл Аляксандравіч пазнаёміў мяне з куткамі і месцамі горада, звязанымі не толькі з жыццём Дастаеўскага, Пушкіна, Лермантава і інш., але і з жыццёвым лёсам іх герояў (ведаю нават той камень, пад які Радзівон Раскольнікаў схаваў грошы, рэчы забітай ім старой). У мяне ўжо былі свае ўспаміны аб уласным жыцці ў гэтым горадзе. Але ўсё яшчэ не было адчування, што горад прыняў мяне — разам з тымі мільёнамі, якія яго па-асабліваму любяць. Любяць як нешта адзінае і непаўторнае на зямлі і ў той жа час ведаюць, што і самі належаць гораду. А мае да яго — Пецярбурга, Петраграда, Ленінграда — такія пачуцці з'явіліся, пачыналіся не сёння і не ўчора, а недзе на дзесятым годзе жыцця — з першых, не радкоў нават, а як бы акордаў Пушкіна: «Па берегу пустынных волн...»

І вось той момант, калі ўсё перамянілася. (Вядома, ва мне самім гэта адбылося, але здалося, што гэта горад глянуў і раптам мяне заўважыў, і я нават голас пачуў — рэхам моцным ва мне загучаў.) Гэта быў ужо 1978 год. Мы ўжо надрукавалі першыя раздзелы «Блакаднай кнігі». Сотні пісьмаў блакаднікаў, якіх мы самі не знайшлі, цяпер праз «Новый мир» шукалі нас Каб нешта дадаць, нешта сваё сказаць ці проста добрым словам аддзячыць Даніілу Граніну і яго сааўтару з Беларусі. Я зноў прыехаў у Ленінград, напрадвесні, пабыў на Краснапуцілаўскай, на сваёй кватэры, якая была замест гасцініцы, і, як заўсёды, да метро пайшоў міма помніка блакаднаму Ленінграду. У гэты дзень і помнік быў нейкі не той, як заўсёды: раптам быццам закалыхаліся, ажылі ў вясновым паветры нерэальна выцягнутыя тонкія постаці жанчын, салдат, рабочых, дзяцей — як праз замутнёную свядомасць не тваю, а самога блакадніка... Даехаў да Неўскага і ўздоўж Мойкі, а пасля праз гарбаты мосцік каля дома Пушкіна выйшаў да Зімняга — Эрмітажа, праз Дварцовы мост перайшоў на другі бераг Нявы, дзе універсітэт, Архіў Акадэміі навук — адсюль пачаў лічыць крокі. Колькі прыблізна метраў ад Архіва да дома, абвешанага чорнымі мемарыяльнымі дошкамі, у якім жыў, куды і адкуль ездзіў на сваім інвалідным «самакаце» Георгій Аляксеевіч Князеў? У нас ужо быў яго дзённік, і мы распачыналі працу над другой часткай «Блакаднай кнігі». А вось і егіпецкія сфінксы над самай Нявой, якія ў дзённіку дырэктара акадэмічнага архіва ўсё больш ажываюць, робяцца амаль

галоўнымі яго суразмоўнікамі — па меры таго як жыццё навокал не проста замірае, а вымірае. За шырокай Нявой вялізны купал Сената. Князеву адсюль, з-пад кароткіх дарычаскіх калон яго дома, пасля абстрэлу раптам здалося, што гэта расколаты чэрап!..

Калі я вяртаўся па Дварцовым мосце, сонца ўжо было над Фінскім залівам і, як найчасцей у Ленінградзе,— садзілася ў хмары, на непагоду. З-за разарваных, з сінню і чырванню па краях, воблакаў вырваліся апошнія промні і залілі расплаўленым шклом вокны ўздоўж усяго берага ракі. Людзей ля Эрмітажа нязвычна мала, мост пустынны, і навокал неяк пустынна, хоць яшчэ і не вечар. Вось тут я і пачуў (ці адчуў) тое імгненне. І зразумеў, што не чужы ў гэтым горадзе. Не чужы яму. Быццам глянуў ён у мой бок і нават сказаў: «Ну што ж, калі ўжо так...»

Закончу цытатай з надрукаванай у «Новом мире» другой часткі «Блакаднай кнігі».

«Масква трымаецца, Ленінград не здаецца!» — як гэта было важна чуць, ведаць у лясах Беларусі... Для нас важна было, што Ленінград не проста стаяў непарушна, а тое, што ён як бы абясцэньваў сілы і самаўпэўненасць ворага. Мы тады не маглі ведаць, якіх намаганняў, чаго гэта каштавала. Важна было, што ён трымаўся — пасля таго як мы на свае вочы бачылі, здавалася, нястрымны пачатак нямецкага маршу на ўсход. Ленінград спыніў гэты марш і паказаў: вось яна, мяжа нямецкай сілы! Яна была акрэслена, гэта мяжа, разгромам нямецкіх армій пад Масквой. Горад на Няве дэманстраваў бяссілле ворага, яно цягнулася праз годы, гэтае кашмарнае для Гітлера бяссілле зрабіць хоць бы адзін крок наперад.

Тады не ведалі, каму пакланіцца за гэтую вытрымку Ленінграда, якая здалёк, з Беларусі, здавалася жалезнай. Удзел у працы над «Блакаднай кнігай» аўтара-беларуса няхай таксама будзе такім паклонам, хоць і запозненым...»

## ЗМЕСТ



Адамовіч А.

Хатынская аповесць; Публіцыстыка/ Прадм. М. А. Тычыны.— Мн.: Маст, літ., 1989.— 237 с., [1] л. партр.

ISBN 5-340-00582-8.

Адамович А. Хатынская повесть; Публицистика.

Аповесць (Дзяржаўная прэмія БССР 1976 г.), якая нарадзілася з дакументаў, рэальных уражанняў, апавяданняў сведкаў трагедыі тысяч беларускіх вёсак, у якіх фашысты чынілі неймаверныя дзікунствы,— гэта аповесць пра сілу чалавечага духу, гэта аповесць-папярэджанне ў наш трывожны час, калі чалавецтва наблізілася да той бездані, якая можа абрынуць усё жывое ў нябыт.

У кнігу ўключана і асобная антываенная публіцыстыка пісьменніка.

4702120201 — 149

А ------------ БЗ 43—89

М 302(03)—89

ББК84 Бел7

Литературно-художественное издание
Школьная библиотека

АДАМОВИЧ АЛЕКСАНДР МИХАИЛОВИЧ
ХАТЫНСКАЯ ПОВЕСТЬ ПУБЛИЦИСТИКА

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне
Школьная бібліятэка

АДАМОВІЧ АЛЯКСАНДР МІХАЙЛАВІЧ
ХАТЫНСКАЯ АПОВЕСЦЬ ПУБЛІЦЫСТЫКА

Рэдактар Л. Р. Законнікава
Мастак А. М. Кашкурэвіч
Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін
Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч
Карэктар Н. У. Доваль
ІБ № 3373
Здадзена ў набор 20.02.89. Падп. да друку 27.07.89. Фармат 84 Х 108'/за. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 12,60 + 0,11 укл. Ум. фарб.-адб. 13,13. Ул.-выд. арк. 13,27. Тыраж 10 000 экз. Зак. 2277. Цана 70 к.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мімск, праспект Машэрава, 11.
Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.